*Уладзімір ЗАМЯТАЛІН:*

# «ХЛУСНЯ АБ БЕЛАРУСІ ПАЯЎЛЯЕЦЦА НЕ ВЫПАДКОВА»...

Як паведаміла прэс-служба Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзімір Замяталін, каменціруючы інфармацыю агенцтва «Рэйтэр», якая прагучала ў праграме «Час» 18 чэрвеня, аб тым, што нібыта Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ацаніў вынікі выбараў у Расіі як амаль што пратэст выбаршчыкаў супраць праводзімай палітыкі цяперашняга Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, назваў яе абуральным фактам парушэння правоў чалавека.

Уладзімір Замяталін падкрэсліў, што «правы чалавека на дакладную інфармацыю, ачышчаную ад хлусні, паклёпу і кан'юнктуры, парушаюць у Беларусі перш за ўсё журналісты без пэўнага грамадзянства, якія залежаць ад долараў хабараў, замежных спецслужбаў і беларускіх фашыствуючых нацыяналістаў і называюць сябе «незалежнымі».

«Менавіта гэтыя журналісты, якія не прысутнічалі на сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з моладдзю, дазволілі чарговы раз груба сказіць выказванні Прэзідэнта Беларусі наконт першага тура выбараў у Расіі. Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што вынікі выбараў гавораць аб неадназначным успрыманні выбаршчыкамі рэформаў, раней праводзімых у Расіі. Беларусь, выбраўшы таксама шлях дэмакратычных рэформаў, будзе ўлічваць у іх рэалізацыі памылкі, дапушчаныя ў брацкай дзяржаве. Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Мікалаевіч Ельцын, з якім у яго вялікая дружба, разумее памылкі, дапушчаныя ў ходзе рэформаў, і менавіта ў мэтах іх выпраўлення ўнёс сур'ёзныя карэктывы ў працэс далейшага эканамічнага развіцця Расіі».

Далей намеснік кіраўніка Адміністрацыі беларускага Прэзідэнта заявіў, што «непрыкрытая хлусня аб Беларусі на тэлебачанні і ў друку, асабліва ў замежных, сістэматычна паяўляецца не выпадкова. Яна — заканамерны вынік усіх тых бяздарных палітыканаў, хто генетычна адхіляе аб'яднальны працэс Беларусі і Расіі і робіць у гэтых мэтах усё самае бруднае і пошлае».

**БЕЛТА.**

## У МІНСКУ ПРОЙДЗЕ АКЦЫЯ «НАРОД СУПРАЦЬ ФАШЫЗМУ»

**Гарадскія ўлады дазволілі правядзенне ў Мінску акцыі «Народ супраць фашызму», прымеркаванай да 55-годдзя з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Заяўка на правядзенне мерапрыемства была пададзена ў пачатку чэрвеня прадстаўнікамі Беларускага народнага фронту Артурам Вольскім і Станіславам Гусаком.**

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА віцэ-мэр сталіцы Ігар Зелянкевіч, гэта акцыя будзе ўсенароднай, а не альтэрнатыўнай, паколькі правядзенне афіцыйнага мітынгу не плануецца. Шэсце пачнецца 22 чэрвеня ў 11 гадзін раніцы ад вуліцы Янкі Купалы. Яго ўдзельнікі ўскладуць вянкі і кветкі да абеліска Перамогі і ў месцах пахавання воінаў.

Удзень у парку імя Горкага адбудзецца мітынг, прысвечаны гэтай даце.

**Кацярына ШЫМАНСКАЯ, БЕЛТА.**

*ТРЫБУНА ДЭПУТАТА*

# ПАРЛАМЕНТ РАСПРАЦОЎВАЕ КАНЦЭПЦЫЮ ЭКАНАМІЧНАЙ СТАБІЛІЗАЦЫІ

***Як ужо пісала «Звязда», 18 чэрвеня Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь па ініцыятыве старшыні парламенцкай Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Васіля Шлындзікава ўключыў у парадак дня сесіі пытанне аб парламенцкіх слуханнях па тэме асноўных напрамкаў эканамічнай палітыкі нашай дзяржавы. Нягледзячы на незвычайную важнасць гэтай праблемы, выкліканай далейшым паглыбленнем крызісу ў эканоміцы краіны, частка дэпутатаў, пераважна ад фракцыі камуністаў, спрабавала сабатаваць уключэнне гэтага пытання ў парадак дня, ці хаця б перанесці яго. Аднак большасць Вярхоўнага Савета не падтрымала камуністаў. Тым часам, як паведаміў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, ён паслаў афіцыйнае запрашэнне А. Лукашэнку прыняць удзел у гэтых слуханнях і выступіць у Вярхоўным Савеце.***

***З нагоды маючых адбыцца слуханняў наш карэспандэнт размаўляе са старшынёй парламенцкай камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах Васілём ШЛЫНДЗІКАВЫМ.***

**— Васіль Міхайлавіч, чаму, на ваш погляд, у парламенце былі такія гарачыя дэбаты па такому, здавалася б, адназначнаму пытанню?**

— У прынцыпе выступалі супраць уключэння ў парадак дня сесіі гэтага пытання аб асноўных напрамках эканамічнай палітыкі толькі прадстаўнікі фракцыі камуністаў. Пытанне гэтае было падтрымана фракцыяй «Згода» і іншымі. Цяжка сказаць, чаму яны выступалі супраць, бо на парламенцкіх слуханнях заўсёды можна прапанаваць сваё... Я думаю, што ўсё гэта звязана з выбарамі ў Расіі і чаканнямі, што там да ўлады прыйдзе Г.Зюганаў і тады натуральным будзе чакаць іншага курса, іншых падыходаў і ў нашай краіне, якія б камуністы захацелі б прапанаваць.

**— Праект пастановы па гэтай праблеме падрыхтаваны вашай камісіяй. У чым сутнасць тых падыходаў, якія прапаноўваеце вы?**

— Сутнасць гэтых падыходаў — гэта неабходнасць яшчэ раз падмацаваць курс, які ўжо быў абазначаны Вярхоўным Саветам папярэдняга склікання: курс на фарміраванне адкрытай, сацыяльна арыентаванай рыначнай эканомікі.

**— Вы лічыце, што ёсць неабходнасць у гэтым пацвярджэнні?**

— Так, бо сёння вядзецца ўжо крыху іншы курс.

**— Вы маеце на ўвазе курс, які праводзіць выканаўчая ўлада?**

— Так. Я лічу, што апошнія дзеянні выканаўчай улады не з'яўляюцца рыначнымі, яны несумненна, на мой погляд, нанясуць урон эканоміцы рэспублікі. І ўжо наносяць. Калі гэта будзе працягвацца, мяркую, Прэзідэнт пераканаецца ў памылковасці тых парад, якія яму даюць яго эканамічныя дарадчыкі.

**— А акрамя агульнай накіраванасці якія яшчэ пазітыўныя падыходы закладзены ў вашай канцэпцыі?**

— Там выкладзены прапановы па фарміраванню гэтага эканамічнага курсу, прапановы па эканамічнай палітыцы на перыяд стабілізацыі. Там прадугледжаны канкрэтныя мерапрыемствы, што трэба рабіць, каб спыніць гэты спад, стабілізаваць эканоміку, каб жыццёвы ўзровень людзей не падаў, а пачынаў расці.

**— І ўсё ж, што выказвалася сумненне ў тым, што выканаўчая ўлада падтрымае і выканае вашу канцэпцыю...**

— Я хацеў бы спадзявацца, што выканаўчая ўлада пойдзе на супрацоўніцтва з Вярхоўным Саветам. З чымсьці можна пагадзіцца, з чымсьці — не, адна справа — рабіць тэарэтычныя прадпасылкі, другая — прымаць канкрэтныя рашэнні, за якія трэба адказваць. Таму трэба яшчэ раз усё пераасэнсаваць, гэта не будзе лішнім ні для парламента, ні для Прэзідэнта. Я спадзяюся на тое, што ў нашай размове актыўны ўдзел возьме выканаўчая ўлада.

**— А калі вы распрацоўвалі вашу канцэпцыю, ці ўдалося вам падключыць каго-небудзь з дарадчыкаў прэм'ера ці супрацоўнікаў Мінэканомікі?**

— Справа ў тым, што мы першапачаткова паставілі перад сабой задачу не прыцягваць да распрацоўкі гэтых прапаноў людзей, якія раней ужо прымалі ўдзел у фарміраванні падобных праграм. Мэта гэтага была ў тым, каб паглядзець на гэтую праблему крыху збоку, каб распрацоўшчыкі не былі звязаны нейкімі догмамі і ўстарэлымі ўяўленнямі, а мелі свежы погляд. Мы накіравалі прапановы Кабінету Міністраў, каб яны азнаёміліся з нашымі напрацоўкамі, накіроўваем іх і Прэзідэнту. Я думаю, што найлепшым рашэннем быў бы сумесны разгляд і выпрацоўка гэтых мераў па канкрэтных накірунках. Да гэтай работы трэба прыцягваць як мага больш людзей, якія потым вялі б гэтыя накірункі пастаянна, улічваючы памылкі і дасягненні.

**— На сустрэчы з прадстаўнікамі маладзёжных арганізацый Прэзідэнт Лукашэнка абвяргаў папрокі ў яго адрас наконт таго, што, маўляў, у яго няма эканамічнай праграмы. На яго погляд, няма сэнсу ствараць новыя праграмы, якія застануцца на паперы, аплачваючы пры гэтым працу высокааплатных спецыялістаў. Не праграмы, а канкрэтныя справы патрэбны, зазначаў А. Лукашэнка...**

— Я мяркую, што Аляксандр Рыгоравіч тут памыляецца. Вядома, не будзе толку, калі прынятая праграма не будзе падтрымана выканаўчай уладай і народам. Без гэтага цяжка разлічваць на поспех. Але, па вялікаму рахунку, ніводная праграма толкам і не выконвалася. Калі б была выканана хаця б апошняя, антыкрызісная праграма, прынятая ў 1994 годзе, то вынікі былі б іншыя.

**Размаўляў Валер КАЛІНОЎСКІ.**

***(Заканчэнне ў наступным нумары).***

## ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ ЕЎРОПЫ

## АНГЛІЧАНЕ РАЗЫГРАЛІСЯ

**На чэмпіянаце Еўропы па футболу прыйшла пара чвэрцьфіналаў. Учора позна ўвечары вызначыліся апошнія чатыры шчаслiўцы, аб якіх мы паведамім у наступным нумары. А напярэдадні столькі ж пуцёвак было разыграна ў дзвюх групах — «А» і «В».**

Нечакана для ўсіх выбылі з далейшай барацьбы балгары, якія прайгралі французам з лікам 1:3. Другой камандай у групе «В» сталі іспанцы, не без цяжкасцей выйграўшыя (2:1) у румынаў. Фіяска пацярпелі галандцы. На галоўным стадыёне Англіі Уэмблі пры 80 тысячах балельшчыкаў яны прайгралі з разгромным лікам 1:4 гаспадарам — англічанам. Аднак гэтае паражэнне ўсё ж пакінула зборную Галандыі ў ліку прэтэндэнтаў на медалі першынства, паколькі іх канкурэнтам — камандзе Шатландыі — не хапіла аднаго мяча да запаветнай васьмёркі. Шатландцы выйгралі ў зборнай Швейцарыі 1:0, але гэтага аказалася малавата.

**Турнірная табліца пасля папярэдніх гульняў**

***Група «А»***

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **1. Англія** | **3** | **2** | **1** | **0** | **7-2** | **7** |
| **2. Галандыя** | **3** | **1** | **1** | **1** | **3-4** | **4** |
| 3. Шатландыя | 3 | 1 | 1 | 1 | 1-2 | 4 |
| 4. Швейцарыя | 3 | 0 | 1 | 2 | 1-4 | 1 |

***Група «В»***

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **1. Францыя** | **3** | **2** | **1** | **0** | **5-2** | **7** |
| **2. Іспанія** | **3** | **1** | **2** | **0** | **4-3** | **5** |
| 3. Балгарыя | 3 | 1 | 1 | 1 | 3-4 | 4 |
| 4. Румынія | 3 | 0 | 0 | 3 | 1-4 | 0 |

У першых дзвюх чвэрцьфінальных гульнях сустракаюцца:

22 чэрвеня: Англія—Іспанія, Францыя—Галандыя.

*З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ*

# СВАБОДА ДРУКУ — НЕ СІНОНІМ АНАРХІІ

**Упарта мусіруемыя некаторымі сродкамі масавай інфармацыі чуткі і домыслы вакол загада Дзяржаўнага камітэта па друку аб прыпыненні дзеяння пасведчання аб рэгістрацыі газеты «Биржи и банки. Белорусская деловая газета» карэспандэнт БЕЛТА Лідзія Перасыпкіна папрасіла пракаменціраваць чалавека, які падпісаў гэты загад, — старшыню Дзяржкамдруку Уладзіміра БЕЛЬСКАГА.**

— Газеце «Биржи и банки. Белорусская деловая газета» быў зроблены шэраг нязначных заўваг у 92-м, 94-м, 95-м гадах, — гаворыць Уладзімір Пятровіч. — Сёлета ў адрас гэтага выдання дасланы дзве заўвагі: 2 і 4 чэрвеня. Адна з іх вельмі сур'ёзная і датычыць публікацыі ў нумары за 6 мая артыкула «Адборная гвардыя прэзідэнта», якая парушае патрабаванні 5-га артыкула Закону Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». Камітэт па друку звярнуўся ў Мінюст з просьбай даць прававую ацэнку гэтай публікацыі і атрымаў пацвярджэнне, што ў ёй змяшчаюцца звесткі, якія выдаюць дзяржаўную тайну. Ёсць да «БДГ» прэтэнзіі і ў Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі рэспублікі, па заключэнню якой яна, як і «Нацыянальная эканамічная газета», «Белорусский рынок», «Белорусская газета» рэгулярна публікуе рэкламныя аб'явы суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца незаконнай дзейнасцю па куплі-продажы валюты. Гэтыя акалічнасці і сталі падставай для таго, каб да 1 ліпеня, тэрміну заканчэння рэгістрацыі ўсіх СМІ, прыпыніць дзеянне пасведчання аб рэгістрацыі газеты «Биржи и банки. Белорусская деловая газета». Думаю, за час, што застаўся да першага чысла, мы зможам разабрацца ў сітуацыі.

— Да практыкі заўваг Дзяржкамдруку ў адрас сродкаў масавай інфармацыі прыйдзецца прывыкаць, — адзначыў далей Уладзімір Бельскі. — З самага пачатку сваёй дзейнасці на пасадзе старшыні камітэта я абяцаў, што будзе створана магутнае прававое ўпраўленне, якое дапаможа забяспечваць юрыдычныя нормы ва ўзаемаадносінах сродкаў масавай інфармацыі з дзяржавай і з чытачамі. Мы стварылі інфармацыйна-аналітычнае ўпраўленне, якое праводзіць аналіз СМІ, і ўпраўленне прававога забеспячэння, што рэгіструе выданні і сочыць за выкананнем імі закона аб друку і іншых законаў дзяржавы. Мы маем намер рэфарміраваць Інспекцыю па ахове дзяржаўных тайнаў у друку ў Інспекцыю па выкананню ў друку заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Гэтыя структуры пачалі працаваць. Асабліва шмат клопатаў у іх звязана з рэгістрацыяй выданняў, у якіх часам няма ні статутаў, ні дагавораў з заснавальнікамі. Мы дапамагаем юрыдычна афарміць дзейнасць выданняў. Зрабілі ўсё і для таго, каб вярнуць друкаванне і распаўсюджанне шэрага недзяржаўных выданняў у рэспубліку. Але тыя, хто на «уходе за границу» рабіў палітычныя дывідэнды, вяртацца не хочуць.

Некалькі слоў аб самім факце рэгістрацыі выданняў у Дзяржкамдруку. Як вядома, яна праводзіцца згодна з распараджэннем Прэзідэнта, што выйшла ў студзені гэтага года. І зацягнулася на некалькі месяцаў толькі з-за рэарганізацыі Міністэрства культуры і друку, у выніку якой з'явіўся Дзяржаўны камітэт па друку. Ужо праз два тыдні пасля майго назначэння быў выдадзены загад аб рэгістрацыі СМІ, і ва ўсе выданні былі разасланы пісьмы з просьбай даслаць заявы на рэгістрацыю. Тыя, хто гаворыць цяпер, што ў распараджэнні Прэзідэнта і ў Законе аб друку ёсць разыходжанні, не павінны забываць, што такую выснову мае права зрабіць толькі Канстытуцыйны суд (гэты пункт гледжання пацвердзіў Мінюст). А наш камітэт, як структура выканаўчай улады, абавязаны выконваць распараджэнне кіраўніка дзяржавы.

І яшчэ адна заўвага. Чамусьці ў публікацыях, што з'явіліся аб загадзе Дзяржкамдруку, размова вядзецца толькі аб «БДГ» і замоўчваецца, што гэтым жа дакументам прыпыняецца дзеянне пасведчання аб рэгістрацыі газеты «Берестейський край», якой таксама былі зроблены два папярэджанні.

— Мы павінны навучыцца паважаць законы, разумець свабоду друку не як анархію, а як уменне жыць у рамках законаў дзяржавы, — падкрэсліў Уладзімір Бельскі.

**БЕЛТА.**

## СЁННЯ

### МЕСЯЦ

**Маладзік 16 чэрвеня.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Феадота, Калерыі (Валерыі), Марыі**

**К. Бэнігны, Богны**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 16—18, Мінску, Магілёве — 17—19, Гродне — 18—20, Брэсце, Гомелі — 19—21 градус.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, у заходніх раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Тэмпература ўначы — 8—13, удзень — 18—23; 22-га па паўднёва-ўсходняй палавіне рэспублікі — 24—29 градусаў цяпла.

**Медыцынскі прагноз надвор'я на 20 чэрвеня**

Надвор'е будзе вызначацца перыферыяй цыклону, што прывядзе да росту атмасфернага ціску (на 5—7 мб) і ўтрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах магчыма пагаршэнне самаадчування ў метэазалежных хворых з захворваннем на стэнакардыю і гіпертанію.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца захоўваць ашчадлівы рэжым, рабіць самамасаж шыйна-плечавога пояса і цёплыя гідрапрацэдуры, больш строга прымаць лекавыя прэпараты, прызначаныя ўрачом, заспакаяльныя сродкі.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

# Каментарый да артыкула «Страсці вакол страсцей»

На наш погляд, аўтарскі калектыў у складзе кампазітара А. Мдзівані, аўтара лібрэта і харэографа В. Елізар'ева і сцэнографа В. Акунёва стварыў выдатны высокамастацкі твор. Паказ балета «Страсці» на сцэне беларускага тэатра і яго высокая грамадская ацэнка з'явіліся істотным духоўным дасягненнем у беларускім мастацтве.

Пасля прэм'еры балета і пры непасрэдным удзеле аўтарскага калектыву быў зроблены відэазапіс спектакля, які і адаслалі ў міжнароднае журы спецыяльнай камісіі ЮНЕСКО. Відэазапіс быў зроблены ў аматарскім фармаце, што не дазваляе выкарыстоўваць яго з камерцыйнымі мэтамі.

Прыз Міжнароднай асацыяцыі дзеячаў харэаграфіі «Бенуа дэ ля данс» (пры ЮНЕСКО) быў прысуджаны В. Елізар'еву **за лепшую** харэаграфію ў сусветным балетным мастацтве 1995—1996 гг. Прызы прысуджаліся па пяці намінацыях: харэографу, кампазітару, выканаўцам, мастаку-сцэнографу, мастаку па святлу.

Прыз за лепшую музыку да балета ў 1995—1996 гг. быў прысвоены гэтай жа камісіяй грэчаскаму кампазітару Джорджу Курупасу за балет «Адысей» у пастаноўцы Гамбургскай Штатсоперы.

Стваральнікі спектакля «Страсці» (кампазітар А. Мдзівані, аўтар лібрэта і харэограф В. Елізар'еў, сцэнограф В. Акунёў) зарэгістравалі сваё аўтарства вызначаным шляхам і атрымліваюць адпаведнае аўтарскае ўзнагароджванне; іх аўтарскія правы знаходзяцца пад аховай дзяржавы.

Інфармацыя, якая была накіравана Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь у сродкі масавай інфармацыі і ўрадавыя інстанцыі, поўнасцю адлюстроўвала істотны ўклад усіх стваральнікаў балета, а таксама асабісты поспех на прэстыжным Міжнародным конкурсе В. Елізар'ева. А. Мдзівані аб выніках конкурсу быў своечасова праінфармаваны.

Высока ацэньваючы якасць музыкі А. Мдзівані і ў адпаведнасці з рашэннем мастацкага савета беларускага балета, 4 чэрвеня 1996 года Экспертная камісія Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь вырашыла пытанне аб максімальнай аплаце музыкі балета А. Мдзівані «Страсці» з 50-працэнтным павышэннем стаўкі, прадугледжанай палажэннем аб аплаце аўтарскіх узнагароджванняў.

Кампазітар А. Мдзівані працаваў з членамі аўтарскага калектыву ў поўным узаемаразуменні і асабіста перадаў клавір і партытуру тэатру для пастаноўкі спектакля. Па афішах і ва ўсёй рэкламнай прадукцыі балета аўтарства кампазітара А. Мдзівані ўказваецца ў поўнай адпаведнасці з яго пажаданнямі.

На наш погляд, ніякай падставы для канфлікту не існуе і выказваем упэўненасць, што недарэчнасці, якія ўзніклі, будуць вырашаны.

**А. КІРЫЕНКА,**
**начальнік аддзела музычных установ і цыркаў Міністэрства культуры.**

# ТУТ АДВЕЧНАЮ ПЕСНЯЮ УСЛАВІЎ ДНЯПРО ЗЕМЛЯРОБАЎ, МАЙСТРОЎ, ВАЯРОЎ

*«...Ён любіў гэтую повязь з усімі з усімі. З усімі вякамі і ўсімі людзьмі, што былі, ёсць і будуць на зямлі...»*

**У. КАРАТКЕВІЧ. «Барвяны шчыт».**




**Герб Копысі — чорны заяц на зялёным полі быў зацверджаны больш за дзвесце гадоў таму.**



**Тут, на пакручастых дняпроўскіх берагах, неаднойчы праходзілі рубяжы абароны нашай зямлі.**

БЫЛІ СТАГОДДЗІ, што, нібы аблокі над роўнядзю ракі, ляцелі, паганяемыя вятрамі. Былі вятры-ўраганы, якія неслі гісторыю, уносілі ў нябыт падзеі, імёны, справы. На крутым беразе Дняпра красавалася паселішча, якое старажытныя пісьмовыя крыніцы ўпаміналі яшчэ ў 1059 годзе. Копысь па сённяшніх маштабах — невялічкі пасёлак, але гісторыя яго вартая вялікай старонкі ў кнізе Бацькаўшчыны.

Калісьці па загаду Пятра I тут быў створаны абарончы рубеж. Вядома, была гэтая мясціна і ў Віцебскім ваяводстве Вялікага княства Літоўскага. Магдэбургскім правам была засведчана годнасць жыхароў: на гандлёвай плошчы непадалёку ад Капыскага замка стаялі восемдзесят крамаў. У Айчынную вайну 1812 года ў ваколіцах дзейнічаў партызанскі атрад Дзяніса Давыдава, праз Копысь армія фельдмаршала Кутузава гнала адступаючых французаў.

А якія майстры жылі ў Копысі! Выраблёнай імі шматколернаю паліванаю кафляю аздабляліся палацы і храмы ў многіх краінах Еўропы. Два стагоддзі таму тут працавалі каля 20 заводаў...

Справы майстроў і ваяроў застаюцца ў гісторыі назаўжды, як застаецца ў свядомасці народа ўзнёслая паэтыка, дадзеная адвечнай прыгажосцю роднай зямлі. Варта паслухаць, як спяваюць тут сёння сівенькія бабулькі, як ладзяць карагоды моладзь, варта ўбачыць, як нараджаецца на ганчарным крузе гліняны кубачак ці збаночак, аздоблены хвалістымі цішчэнымі паяскамі, налепкамі, зашчыпамі...

Шкада, але сёння гуляюць вятры ў апусцелых памяшканнях мясцовай вытворчасці — былога цэха Аршанскага камбіната сілікатных вырабаў. Былыя майстры знайшлі іншую працу — яе, як і паўсюдна, атрымаць сёння нялёгка. На беразе Дняпра, адкуль адыходзіць маленькі паром, вяскоўцы сказалі, што няпроста цяпер і хлебаробам, і жывёлаводам. Сам жа гаспадар парома — Віктар Васільевіч Драздоў у прыклад прывёў сваю зарплату —195 тысяч «зайцоў»: па сучасных маштабах яе хопіць на пяцьшэсць абедаў у звычайнай сталоўцы.



**Не забылі вяскоўцы песні сваіх продкаў.**



**У кожнай хаце вы ўбачыце гліняны посуд, зроблены мясцовымі майстрамі.**

А яшчэ распавядалі людзі, што ад закінутай каплічкі паблізу знямелага цэха залежыць уся будучыня і вытворчасці, і пасёлка. Кажуць, што існуе пагалоска, нібы да таго часу будзе ладзіцца справа ў майстроў, пакуль будзе ўзносіцца да нябёс малітва ў старэнькай капліцы. Маўляў, адродзяць капліцу — адродзяць жыццё ў Копысі.

Напэўна, ніколі тут (дарэчы — паўсюдна, дзе жыве чалавек) жыццё не было абсалютна бязвоблачным ці зусім гаротным. Чалавек заўжды жыве ў няспынным спалучэнні светлага і цьмянага, жыве і спадзяецца на лепшае. Магчыма, з дапамогай дзяржавы ці новых айчынных прадпрымальнікаў зноў запрацуе мясцовы цэх, зноў засвецяцца вокны крамаў, паўстануць прыгожыя дамы. Напэўна, адзін з самых лепшых пабудоўць для музея. Хіба ж няма чым ганарыцца Копысі?

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**
**(Фота аўтара.)**

*Пасёлак Копысь Аршанскага раёна.*



**Непрывабны выгляд у закінутага цэха.**



**У хаце Аляксандры Данілаўны Цярэшчанка захавалася печка, складзеная ў 1925 годзе. Ад падлогі да столі яна аздоблена прыгожай кафляю тагачаснай мясцовай вытворчасці.**

**За унікальную печку, адзіную ў Копысі, гаспадыні неаднойчы прапаноўвалі вялікія грошы. Але тая не спакусілася, захавала для ўнукаў сямейную рэліквію.**



**Такую кафлю выраблялі некалі ў Копысі.**

## Сяргей ПОСАХАЎ:

# «УСЯ ДЗЕЙНАСЦЬ БНФ ЦЯПЕР НАКІРАВАНА НА САТАНІЗАЦЫЮ ГРАМАДСТВА»

**З памочнікам Прэзідэнта Беларусі Сяргеем Посахавым гутарыць карэспандэнт «Інтэрфакса» Вячаслаў Зяньковіч**

**— Сяргей Аляксеевіч! На працягу апошніх трох месяцаў у грамадска-палітычнай атмасферы рэспублікі лунае дух нейкай напружанасці. Рэзка актывізавала сваю дзейнасць «правая» апазіцыя. Адзін за адным у Мінску прайшлі шматтысячныя несанкцыяніраваныя ўладамі мітынгі. Чаму гэта адбываецца?**

— У нармальным дэмакратычным грамадстве, а беларускае грамадства я да такіх адношу, барацьба за ўладу паміж рознымі палітычнымі групоўкамі — з'ява натуральная. Пытанне ў тым, у якой форме адбываецца гэты працэс? Калі на аснове закона, маралі і гонару, шляхам прапанавання канкрэтных палітычных і эканамічных праграм, якія, у канчатковым выніку, праходзяць абавязковую працэдуру ўсенароднага галасавання, — добра.

Менавіта такім шляхам — законным і дэмакратычным — прыйшоў да ўлады першы Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка. Ён выставіў сваю перадвыбарную праграму, якую, у адрозненне ад праграм іншых кандыдатаў у прэзідэнты, падтрымала абсалютная большасць насельніцтва рэспублікі. Стаўшы кіраўніком дзяржавы, Аляксандр Рыгоравіч дакладна праводзіць палітыку, зыходзячы з асноўных палажэнняў сваёй праграмы: курс на інтэграцыю з Расіяй і іншымі рэспублікамі былога СССР, на барацьбу з карупцыяй, на спыненне крымінальнай «прыхватызацыі».

Праварадыкальная апазіцыя, якую ўзначальвае Беларускі народны фронт (БНФ), пасля абсалютнага паражэння на нядаўніх парламенцкіх выбарах (у ходзе выбараў ні адзін з прадстаўнікоў БНФ не быў выбраны ў Вярхоўны Савет. — «ІФ») замест таго, каб «легчы на дно», разабрацца ў дапушчаных памылках, прааналізаваць свой палітычны курс на прадмет яго разважнасці і адпаведнасці жыццёвым рэаліям, пачынае мэтанакіравана спрабаваць дэстабілізаваць сітуацыю ў Беларусі. Лідэр БНФ З. Пазняк, які пасяліўся ў Польшчы, раптам стаў папракаць Прэзідэнта А. Лукашэнку ў тым, што той чамусьці рэалізоўвае не яго, З. Пазняка, праграму, а сваю ўласную! Абсурд! Справа ўжо дайшла да таго, што гэтымі днямі ў адным са сваіх інтэрв'ю З. Пазняк заявіў аб магчымасці «узброенай барацьбы з рэжымам А. Лукашэнкі».

З. Пазняк, разам з іншымі кандыдатамі ў прэзідэнты Беларусі, меў магчымасць стаць на чале дзяржавы, і як усе прэтэндэнты на гэтую пасаду, у свой час вынес на суд народа сваю праграму. Народ яе не падтрымаў. Прайграўшы на выбарах, лідэр БНФ выбраў новую палітыку для рэалізацыі свайго плана захопу ўлады ў рэспубліцы. Сутнасць яе заключаецца ў дэстабілізацыі абстаноўкі ў грамадстве шляхам правядзення «акцый запалохвання» — мітынгаў і дэманстрацый, заяў аб верагоднасці ўзброенай барацьбы з «рэжымам А. Лукашэнкі».

Наогул, дзейнасць апазіцыйнай ідэалагічнай машыны вельмі здзіўляе. Чаго варта толькі публікацыя ў адной з апазіцыйных газет, сэнс якой зводзіцца да таго, што тэрарыст, які захапіў групу дзяцей, быў марна забіты «рэжымам А. Лукашэнкі». Крыважэрным паказваецца не бандыт, які прынёс у дзіцячы сад чамадан з магутнай бомбай, а работнікі міліцыі, што ратавалі малышоў, атаясамліваюцца ў артыкуле з нейкім «крыважэрным рэжымам»! Праз такія публікацыі ясна і дакладна адсочваецца імкненне нагнятаць у грамадстве абстаноўку, ствараць істэрыю страху перад нейкімі гвалтоўнымі дзеяннямі.

З няменшай стараннасцю ідэолагі БНФ спрабуюць стварыць нездаровы ажыятаж вакол дасягнутых 2 красавіка ў Маскве прэзідэнтамі Беларусі і Расіі інтэграцыйных пагадненняў. У друку апублікаваны Дагавор аб беларуска-расійскім Супольніцтве. Кіраўнікамі абедзвюх краін дзесяткі разоў сказана, што стварэнне супольніцтва не цягне за сабой страту Беларуссю свайго суверэнітэту. Тым не менш, Народны фронт арганізуе несанкцыяніраваныя мітынгі пад лозунгамі абароны незалежнасці рэспублікі.

Прэзідэнт Беларусі неаднаразова ў сваіх публічных выступленнях падкрэсліваў: нягледзячы на стварэнне беларуска-расійскага супольніцтва дзяржаў, беларускія ваеннаслужачыя не будуць накіроўвацца для ўдзелу ў баявых дзеяннях за межамі сваёй рэспублікі, у тым ліку і ў «гарачыя кропкі», якой цяпер з'яўляецца Чачня. Адпраўка ваеннага кантынгенту Беларусі за мяжу магчыма, згодна з Канстытуцыяй, выключна з санкцыі Вярхоўнага Савета. Тым не менш, актывісты БНФ не стамляюцца спекуляваць «чачэнскай» тэмай у ходзе арганізуемых імі мітынгаў, запалохваючы моладзь перспектывамі скласці галовы на Каўказе.

**— У апошнія паўтара года ў рэспубліцы назіралася значнае зніжэнне мітынговай актыўнасці. Для многіх стала нечаканасцю, што ў арганізуемых БНФ мітынгах прыме ўдзел такая вялікая колькасць людзей. Яўка на мітынг некалькіх тысяч чалавек здзіўляе! Чым вы гэта растлумачыце?**

— Вы маеце рацыю, актыўнасць людзей была даволі вялікая. Сапраўды, нельга сказаць, што абсалютна ўсе ўдзельнікі мітынгаў з'яўляюцца палітычнымі авантурыстамі. Гэта было б няправільна.

Многія заўважылі, што значную частку ўдзельнікаў дэманстрацый і мітынгаў складала моладзь. Яны проста паддаліся мэтанакіраванай ідэалагічнай апрацоўцы БНФ. Вельмі вялікую ролю ў гэтым працэсе адыгрываюць выкладчыкі навучальных устаноў, каледжаў, тэхнікумаў. Студэнты адной ВНУ расказвалі мне, як іх выкладчык на вучэбнай дошцы маляваў схемы-паралелі паміж дзяржаўнымі сістэмамі гітлераўскай Германіі і цяперашняй Беларусі. Гэта ж чыстай вады духоўнае і маральнае разбэшчванне моладзі. Гэта антыпатрыятычнае выхаванне, выхаванне нянавісці да нашай дзяржавы!

Выкладчыкі ВНУ, якія заклікаюць сваіх студэнтаў удзельнічаць, каб дагадзіць ідэолагам БНФ, у незаконных дэманстрацыях, забываюць урокі гісторыі. Расійская інтэлігенцыя, якая заклікала ў 1905 годзе да звяржэння самадзяржаўя, у хуткім часе аказалася ў турмах. У канцлагерах аказаліся германскія сацыял-дэмакраты, якія падтрымалі ў свой час Гітлера.

Нядаўна прысутнічаў на адным з канцэртаў, арганізаваным спецыяльна для студэнтаў. Там рэпертуар быў падабраны так, каб прынізіць існуючую ўладу. Я быў вымушаны пакінуць гэты канцэрт...

Такім чынам, увесь комплекс ажыццяўляемых БНФ мераў, уся яго дзейнасць цяпер накіравана на сатанізацыю грамадства. Галоўны прынцып правых радыкалаў: чым горш у краіне — тым лепш для іх.

Трэба папракнуць і ўладу. Прынамсі, за яе мяккасць у адносінах да дзейнасці праварадыкальных экстрэмістаў. Асабліва за тое, што ўлада дапусціла ўдзел у адным з мітынгаў групы ўкраінскіх нацыяналістаў з забароненай на самой Украіне арганізацыі УНА-УНСО. Актывісты гэтай арганізацыі распаўсюджваюць у маладзёжным асяроддзі Мінска лістоўкі з рэцэптамі вырабу ў хатніх умовах гаручай сумесі тыпу напалму, а таксама інструкцыі, як падпальваць машыны і людзей, як знікнуць пасля гэтага ў натоўпе, каб не быць схопленым АМОНам.

Асобна адзначу: распаўсюджванне такіх лістовак і арганізаваныя УНА-УНСО масавыя беспарадкі ў Мінску выклікалі вялікае абурэнне народа. У Адміністрацыю Прэзідэнта паступае ў сувязі з гэтым вялікая колькасць пісем.

Тыя, хто цяпер выхваляецца тым, што ўдалося адурманіць некаторую частку грамадзян і вывесці людзей на вуліцы, павінны быць гатовы: у адказ на гэта ў дзесяткі раз больш людзей выйдуць на дэманстрацыі пратэсту супраць дзейнасці адкрыта фашысцкіх арганізацый.

Пакідаць нацыянал-радыкалаў на вуліцы сам-насам з работнікамі праваахоўных органаў раўнасільна распальванню вогнішча пад уласным домам. Бо экстрэмісты свядома ідуць на масавыя беспарадкі, імкнучыся тым самым стварыць атмасферу страху і насілля. Задача процідзеяння праявам нацыянал-радыкалізму, — гэта не столькі задача праваахоўных органаў, колькі мэта ўсяго грамадства.

Ужо цяпер паступаюць прапановы стварыць грамадскі камітэт, які б каардынаваў дзейнасць грамадскіх арганізацый, каб перашкодзіць «экспарту насілля».

Беларусь заўсёды ганарылася сваім спакойным, памяркоўным, мяккім па характару народам. У нас ніколі не здаралася праяў бытавога нацыяналізму. Але тыя, хто падкормлівае БНФ, разважылі так: калі ў Беларусі свайго нацыяналізму няма—значыць, яго трэба адкуль-небудзь завезці. Дарэчы, многа чытаў, што значную частку паліцаяў у час Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі немцы прывозілі з іншых рэспублік.

Паслядоўнікі арганізацый, якія паявіліся пад кіраўніцтвам і апекай гітлераўскіх акупантаў, — цяперашнія нацыянал-радыкалы ў святы для кожнага жыхара рэспублікі дзень — 22 чэрвеня, плануюць наладзіць чарговую дэманстрацыю. Лічу проста святатацтвам дабівацца сваіх палітычных мэтаў, як кажуць, «на святых мошчах», спекулюючы то на чарнобыльскай бядзе, то цяпер на чарговай гадавіне пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

Прызнаюся, мяне здзіўляе пазіцыя лідэраў шэрага рэспубліканскіх палітычных партый і рухаў, якія не спяшаюцца выказаць сваю думку адносна падзей у беларускай сталіцы... Паколькі задача процістаяння радыкалізму і беззаконнасці — задача ўсяго грамадства, то ў гэтай сувязі адказнасць палітычных лідэраў вельмі высокая.

**— Назіраецца супярэчнасць: радыкалы, лібералы, кансерватары і іншыя выходзяць на несанкцыяніраваныя мітынгі, патрабуючы няўхільнага захавання заканадаўства і хуткай пабудовы прававой дзяржавы. У сувязі з гэтым наколькі апраўданыя «мяккія» адносіны ўладаў да незахавання перш за ўсё самімі дэманстрантамі ўстаноўленых нормаў і правілаў?**

— Як я ўжо адзначыў, было б няправільна пакідаць работнікаў праваахоўных арганаў сам-на сам з экстрэмістамі. Вырашэнне палітычных праблем не ўваходзіць у функцыі міліцыі. Для вырашэння палітычных праблем павінны быць уведзены ў дзеянне палітычныя механізмы. На практыцы гэта павінны быць у тым ліку і публічныя сустрэчы, дыялогі, пошук кампрамісаў паміж лідэрамі арганізацый, якія з'яўляюцца палітычнымі антыподамі.

Наіўна было б лічыць, што, разагнаўшы міліцэйскімі дубінкамі дэманстрацыю БНФ, можна вырашыць усе праблемы. Бо ім гэта толькі і трэба, каб пасля шляхам ідэалагічных спекуляцый нажыць сабе палітычны капітал.

Зусім відавочна, што БНФ пачаў ашалелую барацьбу за ўладу. Пры гэтым гэта барацьба інспіруецца, у тым ліку апазіцыйнымі сіламі, з сумежных дзяржаў. Самы нязначны крок Беларусі, накіраваны на інтэграцыю з Расіяй і іншымі рэспублікамі былога СССР, выклікае каласальнае непрыманне. Толькі калі гутарыш асабіста з прадстаўнікамі замежжа, яны пачынаюць разумець, што інтэграцыя ў асноўным накіравана на абарону прыватных інтарэсаў грамадзян: парадку абмену кватэр, атрымання адукацыі, лячэння. Што ў гэтым дрэннага?

Прымяняць якія-небудзь вельмі жорсткія меры да адурманеных ідэолагамі БНФ людзей, якія прыйшлі на мітынг БНФ, на мой погляд, не трэба. Трэба, да таго ж, прызнаць, што значную, калі нават не асноўную частку ўдзельнікаў дэманстрацый складаюць проста незадаволеныя ўзроўнем жыцця людзі, якія спрабуюць разабрацца ў прычынах пагаршэння ўмоў жыцця і шчыра жадаюць знайсці выйсце са становішча.

Экстрэмізм па сваёй прыродзе чужы беларускаму менталітэту. Гэта з'ява ніколі не прыжывалася на беларускай зямлі. Яна прывозіцца з-за межаў.

Здзіўляе пасіўнасць нашых знешнепалітычных структур, якія не праяўляюць належнай актыўнасці ў растлумачэнні сусветнай грамадскасці сапраўднага становішча спраў у Беларусі. Трэба, каб замежная аўдыторыя чэрпала інфармацыю аб рэспубліцы не з перадрукоўвак малатыражных апазіцыйных газет, а з праўдзівых крыніц.

*ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА*

# ЦІ ЧЫТАЮЦЬ ДЭПУТАТЫ СВАЕ ЗАКОНЫ? ДАКЛАДНЕЙ — ЦІ ЧЫТАЮЦЬ УСЕ ДЭПУТАТЫ?

**12 чэрвеня ў нашай газеце была надрукавана заява народнага дэпутата ВС Валерыя Шчукіна, у якой ён не згодзен з адным з рашэнняў Вярхоўнага Савета.**

Вядома, гэта справа самога дэпутата — пагаджацца яму з усім, што праходзіць праз ВС, ці не. І права аспрэчваць любое рашэнне, у тым ліку і ў сродках масавай інфармацыі. У тым ліку і зыходзячы са сваёй канкрэтнай пазіцыі. Карацей, дэпутат павінен адрабляць свой хлеб. Але не павінен пры гэтым, мякка кажучы, вольна абыходзіцца з фактамі. Тым больш як дэпутат... У сваёй заяве, пачаўшы з нязгоды, як сказана, з адным з рашэнняў ВС (цалкам магчыма, што В. Шчукін і мае ў гэтым выпадку рацыю), а заадно «прасейваючы» і іншыя аспекты заканатворчай дзейнасці ВС, ён ужо ў другім выпадку даводзіць: «Так, заканадаўча павышаны падаходны падатак з рабочых і за кошт гэтага зменшаны падатак з прадпрымальнікаў і камерсантаў...»

Больш можна толькі меркаваць, што канкрэтна меў на ўвазе В. Шчукін. Ён не называе дакладны заканадаўчы акт і не расшыфроўвае, каго ён падводзіць пад катэгорыю прадпрымальнікаў і камерсантаў (як падаткаплацельшчыкаў, менавіта з нагоды чаго і патрабуюцца дакладныя вызначэнні), але варта меркаваць, што гэты заканадаўчы акт — Закон аб падаходным падатку з грамадзян, а пад прадпрымальнікамі трэба разумець прадпрымальнікаў без утварэння юрыдычнай асобы (дарэчы, так схільны меркаваць і ў Камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах, у якую даводзілася звярнуцца па растлумачэнні). Дык вось, згодна з гэтым законам, прадпрымальнікі без утварэння юрыдычнай асобы плацяць (і раней плацілі) па тых жа стаўках, па якіх плацяць і «рабочыя» («рабочыя» — па вызначэнню В. Шчукіна, а па вызначэнню закона — «грамадзяне», бо, сапраўды, плацім жа падаходны падатак усе). А калі і ёсць якія адрозненні, дык яны датычаць зусім іншага. Напрыклад, у прадпрымальнікаў для канчатковага разліку па падатках за аснову бярэцца сума гадавога даходу... Гэтыя адрозненні ідуць ад спецыфікі прадпрымальніцкай дзейнасці, канкрэтныя ж сумы падаходнага падатку з канкрэтных, аднолькавых сум даходаў, варта яшчэ раз падкрэсліць, у «прадпрымальнікаў» і «грамадзян» — аднолькавыя.

Так тлумачыць закон. А, між тым, «прадпрымальнікі і камерсанты», да якіх надта ўжо нераўнадушная асобная частка нашага грамадства, ні за што ні пра што атрымалі чарговую публічную пстрычку. Незаслужаную.

Дарэчы, нельга абысці тут і наступнае сцвярджэнне дэпутата В. Шчукіна, якое выказана ім ужо ў сувязі з прыняццем Закона аб банкруцтве. Вядома ж, «нядобрага» закона... На думку В. Шчукіна... Дык вось, згодна з ім, г. зн. законам, даводзіць дэпутат, «напрыклад, Мінскі аўтазавод у любы момант можа быць аб'яўлены банкрутам і перададзены кіраўніку з ФРГ ад «Мерседэса», якому канкурэнт МАЗ зусім не патрэбны...»

На вялікі жаль, зусім не канкурэнт МАЗ. А няблага было б, для ўсіх нас, каб стаў канкурэнтам, каб нехта адважыўся і ўклаў дзеля гэтага сродкі. Няхай нават і «Мерседэс».

**Іван БАРАНОЎСКІ.**

*РОЗГАЛАС*

## БУДЗЕ Ў МІНСКУ НОВЫ ВАКЗАЛ

Кабінет Міністраў выдзеліў Беларускай чыгунцы субсідыі на прадаўжэнне будаўніцтва комплексу на Прывакзальнай плошчы ў Мінску. З'явілася ўпэўненасць у тым, што ўрад рэспублікі з гэтага часу будзе сур'ёзна ставіцца да іх праблем. Тым больш, што цяжкасцей у гэтай транспартнай галіне нямала. Толькі ў першым квартале затраты на тэхнічнае абслугоўванне і капітальны рамонт рухомага саставу склалі 70,7 мільярда рублёў. Востра стаіць і праблема з абнаўленнем вельмі зношаных цеплавозаў і вагонаў. Так, 95 працэнтаў пасажырскіх цеплавозаў ТЭП-60 патрабуюць замены. 7 з наяўных 11 цеплавозаў 2ТЭП-60 адпрацавалі сваё, як і 51 дызель-поезд са ста.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

## НА АБАРОНУ ПРАВОЎ СПАЖЫЎЦОЎ СТАЛА ДЗЯРЖАВА

На мінулым тыдні адбылася калегія Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, на якой была разгледжана і атрымала адабрэнне канцэпцыя дзяржаўнай палітыкі па абароне правоў спажыўцоў у Беларусі.

На калегіі таксама быў прыняты план першачарговых мераў на 1996—1997 гады па стварэнню ў рэспубліцы сістэмы дзяржаўнай абароны правоў спажыўцоў. Прыняцце гэтых дакументаў, на думку спецыялістаў, дазволіць рэальна прыступіць да стварэння даўно неабходнай сістэмы. Праграма будзе рэалізоўвацца па трох накірунках: стварэнне адэкватнай жыццёвай сітуацыі нарматыўна-прававой базы па абароне правоў спажыўцоў; развіццё да ўзроўню раёна, горада, гарадскога пасёлка структуры па абароне правоў спажыўцоў; стварэнне сістэмы інфармавання і асветы насельніцтва па пытаннях прававой абароны спажыўцоў.

Стварэнне такой сістэмы дазволіць насельніцтву атрымаць рэальную абарону сваіх правоў на рынку тавараў і паслуг за кошт інфармавання аб якасці і спажывецкіх уласцівасцях тавараў, кансультацыі пры іх выбары, а таксама эканамічную абарону пры набыцці няякасных тавараў.

**Сяргей ПРОТАС.**

## У ТРОХ ПРАЦЭНТАЎ З'ЯВІЎСЯ МАЛЕНЬКІ «ХВОСЦІК»

У Дзяржаўнай службе занятасці насельніцтва карэспандэнту БЕЛТА прадаставілі самыя апошнія даныя па беспрацоўю. На 1 чэрвеня гэты непрыемны статус мелі 175.099 нашых суграмадзян. Больш за ўсё тых, хто мае патрэбу ў працаўладкаванні, у Мінскай і Гомельскай абласцях — 32.539 і 30.543 чалавекі, менш за ўсё — 17.541 — у Мінску. Дапамогу па беспрацоўю з гэтай колькасці атрымліваюць толькі 88.887 чалавек — у маі на гэтыя мэты дзяржава выдзеліла каля 13 мільярдаў рублёў.

Па-ранейшаму мала прапануецца рабочых месцаў для тых, хто жадае атрымаць іх. На 1 чэрвеня афіцыйная патрэбнасць у кадрах па рэспубліцы склала 15.741 чалавек, з агульнай колькасці вакансій 11.920 — для рабочых.

Што датычыць магчымасці працаўладкавацца, то даныя па гэтаму раздзелу такія: з пачатку года набылі жаданы «прычал» 39.693 чалавекі, накіравана на перападрыхтоўку ў адпаведнасці з патрабаваннямі рынку працы — 9.768.

3,015 працэнта — такі на 1 чэрвеня агульны ўзровень беспрацоўя ў Беларусі.

**Таццяна СМІРНОВА, БЕЛТА.**

*МАСКОЎСКІ КАМЕНТАРЫЙ*

# ДРУГІ ТУР — РУЛЕТКА?

**Учора ў Маскве падведзены афіцыйныя вынікі першага тура галасавання. Яны агульнавядомыя. Расія перагарнула яшчэ адну старонку сваёй навейшай гісторыі ў перыяд адчайнага пошуку выйсця з цяжкага эканамічнага крызісу.**

Грамадства зноў узбударажана грамадзянскімі і палітычнымі канфліктамі. І ў мінулую нядзелю, у дзень выбараў Прэзідэнта, гэта моцнае процістаянне канфліктуючых палітычных сіл нагадвала ўжо сапраўдную бітву за будучы лёс Расіі. І не толькі Расіі. І хаця сёння ўстанавілася перамір'е, праз два тыдні ўсё пачнецца спачатку: бакі рыхтуюцца да рашаючай схваткі. Адзін з масцітых маскоўскіх палітолагаў, прагназіруючы ход другога тура, назваў будучую сітуацыю «гульнёй у рускую рулетку» — шчасліваму іграку выйгрыш можа выпадкова прынесці ўсяго толькі адзін працэнт. Драматызм відавочны яшчэ і ў тым, што па Закону аб выбарах працэнт удзелу выбаршчыкаў не мае зараз значэння. Будзе прызнана, што выбары не адбыліся, толькі ў тым выпадку, калі найбольшая колькасць галасоў будзе пададзена «супраць усіх», што малаверагодна.

Барыс Ельцын першым зрабіў некалькі выйгрышных хадоў, чым пасеяў у шэрагах праціўніка відавочную разгубленасць. Нагомнім, што разрыў паміж Ельцыным і Зюганавым складае недзе каля 2,5 працэнта: усяго паўтара мільёна чалавек. Таму галоўная задача прэтэндэнтаў — у дні, што засталіся, знайсці шлях да сімпатый «безгаспадарных» выбаршчыкаў, прыцягнуць на свой бок электарат экс-кандыдатаў. І Барыс Мікалаевіч практычна «прылашчыў» былога бравага генерала Лебедзя, які выйшаў на трэцяе месца ў прэзідэнцкай гонцы. Два дні назад самы малады маскоўскі палітык узышоў на алімп расійскай улады: Лебедзь быў назначаны сакратаром Савета бяспекі і памочнікам Прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы. Прыйшоўшы ў каманду Ельцына, былы кандыдат у прэзідэнты склікаў мноства журналістаў на сваю прэс-канферэнцыю, каб растлумачыць свой сапраўды сенсацыйны ўчынак. І ён змог, на мой погляд, знайсці менавіта тыя словы, якія дойдуць да свядомасці расіян, што смяротна стаміліся ад дэмагогаў. Запомнілася з'едлівая фраза генерала, адрасаваная камуністам:

— Мне шкада тых, хто зрабіў знаходжанне ў непрымірымай апазіцыі сваёй сумніўнай прафесіяй.

Лебедзь згадзіўся ўвайсці ў каманду Прэзідэнта, каб прыступіць да рэалізацыі галоўных пунктаў сваёй праграмы: адолець злачыннасць, карупцыю, размініраваўшы, як ён выказаўся, поле для эфектыўнай эканомікі — асновы дабрабыту расіян. Зрабіўшы выбар, былы сапернік Ельцына красамоўна даў зразумець сваім выбаршчыкам, што звязваць лёс з камуністамі — справа ненадзейная...

А лідэр КПРФ цяпер можа разлічваць толькі на «падарунак Жырыноўскага», які праваліўся і яшчэ больш азлобіўся супраць усіх і ўсяго. А ён, як заўсёды, непрадказальны.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

*СУСЕДЗІ*

## *Кшыштаф ЗАНУСІ:*

# «ЖЫЦЬ НЕІНТЭНСІЎНА — ЗНАЧЫЦЬ МАРНАВАЦЬ ЖЫЦЦЁ»

**-Ці не будзеце вы супраць, — запытаўся ў мяне пан Кшыштаф Занусі пры маім з'яўленні ў Варшаве, — калі мы «ваш» пакой місіс Іў аддадзім? А вы маглі б жыць у Лясках, у загарадным доме. Гэта ад Варшавы недалёка. Да таго ж пан Навіна-Канопка вас бы раніцай на сваёй машыне ў горад адвозіў. Я яго аб гэтым папрашу.**

Высветлілася: місіс Іў — амерыканская пісьменніца, што нечакана прыехала да пана Кшыштафа, каб сумесна з ім дапрацаваць напісаны ёй сцэнарый будучага фільма, рэжысіраваць які Занусі даў згоду. А пан Пётра Навіна-Канопка аказаўся дэпутатам сейма — ніжняй палаты польскага парламента. Менавіта дзякуючы яму я потым трапіў на прэстыжную канферэнцыю «Беларусь—Польшча—Украіна: бяспечны рэгіён у бяспечнай Еўропе» і пазнаёміўся там з вельмі цікавымі людзьмі. Напрыклад, з пісьменнікам Ежы Памяноўскім, які пераклаў «усяго Салжаніцына» на польскую мову.

Яшчэ тэлефануючы з Мінска пану Кшыштафу наконт свайго прыезду, я адзначыў, як шпарка ён размаўляе. Падчас яго гутаркі (па-англійску) з місіс Іў (з маім удзелам) ледзь не з мінутным інтэрвалам званіў тэлефон, і ён, імгненна рэагуючы, адказваў — то па-польску, то па-італьянску. Прыходзілі журналісты, прыносілі на візу падрыхтаваныя да друку матэрыялы, забіралі завізаваныя артыкулы. Ужо тады ў мяне стала высняваць пытанне, але задаў я яго толькі праз два дні.

— Пане Кшыштаф, як вам удалося захаваць такія адносіны да людзей — свабодныя, дэмакратычныя, без пыхлівай важнасці? Пры тым тэмпе, у якім вы жывяце, можна было б чакаць, што вы станеце чалавекам затузаным, раздражнёным. Як я мог пераканацца, вы ўсё робіце хутка, але без нервовасці, не губляючы галавы. Як гэта ўдаецца?

Абставіны для гутаркі былі не самыя лепшыя: сусветна вядомы рэжысёр сядзеў за рулём свайго «аўто», і я адцягваў яго ўвагу ад кіравання. Ды і час размовы быў абмежаваны — пакуль не кончыцца шлях ад паўночнай ускраіны Варшавы, дзе знаходзіцца дом Занусі, да Варшаўскага універсітэта. Там праходзіла канферэнцыя па пытаннях культуры, на якой майму субяседніку прапанавана выступіць з дакладам.

— Тэмп — гэта справа месца, дзе ты ўкаранёны, — так пачаў Занусі свой адказ. — У нас, у заходнім свеце, тэмп не такі, як у вас, але ён зусім нармальны, не празмерны. Мне дзіўна глядзець, што робіцца на Усходзе. Уражанне такое, што ўсе быццам бы плаваюць у басейне — такія ў іх запаволеныя рухі. І сталасць духу тут ні пры чым: павольнасць не выключае хаатычнасці, адсутнасці гармоніі.

Жыццё нельга марнаваць. Гэта дар, які мы атрымалі. Жыць неінтэнсіўна — значыць не выкарыстоўваць гэты галоўны дар. Лянотнае жыццё было паўсюдным знакам функцыянавання камуністычных краін. Трэба ж жыць інтэнсіўна, бо лянота — гэта ганебна. Але, вядома, мець час і для сябе, для спраў важных, але асабістага значэння.

Так што я не адчуваю асабліва высокага тэмпу жыцця. Мне здаецца, што я проста выкарыстоўваю адведзены мне час.

— Дык можа гэта адчуваюць тыя, хто побач з вамі, — на працы, дома?

— Таксама не, яны жывуць у тым жа самым тэмпе. Хіба ж маёй 90-гадовай маці не прыходзіцца «трымаць тэмп»?

Я вымушаны быў пагадзіцца, бо, чакаючы прыходу пана Кшыштафа, які, відаць, прывычна спазняўся, я змог пабачыць і пачуць, як пані Ванда сустракае і праводзіць наведвальнікаў, адказвае на тэлефонныя званкі — карацей, выконвае функцыі сакратаркі. І не кожная б маладзіца з тым справілася, бо тэлефанавалі з розных краін, на розных мовах.

У той жа дзень, вечарам, мне трапілася на вочы брашура аб апошнім фільме К. Занусі «Цваў» («Галоп»). Крыху папрацаваўшы над спісам фільмаў, я высветліў: усяго за 30 гадоў гэты рэжысёр і сцэнарыст стварыў 51 фільм, з якіх 26 — тэлевізійныя, 25 — кінафільмы. З іх 21 тэлестужка — мастацкая, і столькі ж мастацкіх кінастужак.



Каб не быць галаслоўным, кінафільмы Занусі польскай вытворчасці: « Структура крышталю» (1969), «Сямейнае жыццё» (1971), «Ілюмінацыя» (1973), «Квартальная справаздача» (1974), «Ахоўныя барвы» (1976), «Спіраль» (1978), «Пастаянства» (1980), «Кантракт» (1980), «Галоп» (1995). Кінафільмы замежнай і сумеснай вытворчасці: «Шлях у ноч» (ГДР, 1979), «З далёкага краю» (Італія— Англія, 1981), «Імператыў» (Германія— Францыя, 1982), «Год спакойнага Сонца» (Польшча—Германія—ЗША, 1984), «Парадыгма» (Францыя—Італія, 1985), «Дзе б ты ні быў...» (Польшча— Германія, 1988), «Стан валодання» (Польшча—Германія, 1989), «Доўгая размова з птушкай» (Германія—Англія, 1990), «Жыццё за жыццё» (Польшча—Германія, 1990). Пра многія з іх мы чулі, а нешта нават і бачылі.

Паколькі Занусі заўсёды аўтар ці сааўтар сваіх фільмаў, то набралася ўжо некалькі тамоў яго сцэнарыяў, выдадзеных у розных краінах — у Польшчы, Італіі, Расіі, Венгрыі, Германіі, Чэхіі, нават у Індыі.

Вядома, гэта ўражвае, але пасля асабістага знаёмства не так — бо менавіта падобнай творчай пладавітасці ад яго (з яго энергіяй) ужо чакаеш...

Аднак прабачце, мы яшчэ не даехалі да Варшаўскага універсітэта. І я стаўлю пытанне:

— Ваша жыццё вельмі разнастайнае. Вы паспрабавалі, што такое фізіка і філасофія, прайшлі выпрабаванне як драматург і рэжысёр у драматычных і оперных тэатрах, на тэле- і.кінастудыях. Вы нават да кулінарыі ставіцеся як да сур'ёзнага занятку. Ці ёсць у вас, нягледзячы на ўсе гэтыя разнастайнасці, нейкая галоўная лінія, на якую яны ўсе накладваюцца?

— Чалавек, бадай, не можа прэтэндаваць на такую ступень самасвядомасці, якой вы ад мяне чакаеце...

— З чаго вынікае, што цягі да рэфлексіі ў вас няма?

— Не ў тым справа. Проста жыццё — гэта тайна, і лёс — таксама тайна. Не варта іх занадта рацыяналізаваць і містыфікаваць. Па сутнасці, вы прапануеце мне правесці містыфікацыю майго жыцця. Навошта? Я такога стылю не прымаю. Магчыма, гэта стыль усходнееўрапейскі, але — ужо не мой. Каб я на ваша пытанне ўсур'ёз адказваў, гэта было б самаздаволена, прэтэнцыёзна — як некаторыя расійскія паэты вершы чытаюць. З гэткім пачварным пафасам. Трохі ж сціпласці ўсё-такі трэба мець. Жыццё ж — гэта тайная сувязь з'яў, да якіх я маю дачыненне, якіх я да канца не разумею і ў адносінах да якіх я мушу быць пакорлівым, бо інакш нараблю глупстваў.

Можа, маё пытанне і сапраўды было недарэчным, але адказ на яго атрымаўся змястоўным. Нават нешта падобнае на жыццёвае крэда Занусі ў ім адчувалася. Але працягваць сур'ёзную размову часу ўжо не было.

— Учора дзесьці тут, у цэнтры, я аўтафургон бачыў, на даху якога і па баках было напісана вялікімі літарамі: «ЗАНУСІ». Што гэта магло быць?

— У мяне ў Італіі сваякі ёсць, у іх фірма, што электроннае абсталяванне вырабляе і па свеце разводзіць. Хіба ж я магу быць супраць, каб яны выкарыстоўвалі маё імя?

— У вас у кабінеце можна бачыць трохтомнік Марло, і назвы тамоў вельмі цікавыя: «Звышпрыроднае», «Пазачасавае» і «Нерэальнае». Ці можна меркаваць, што для лепшага адлюстравання прыроднай і сучаснай рэчаіснасці вам калі-небудзь захочацца выйсці паза межы рэалізму?

— Я такой магчымасці не выключаю.

І вось ужо Варшаўскі універсітэт, філасофскі факультэт: менавіта тут праходзіць канферэнцыя па пытаннях культуры. Падымаемся у канферэнц-залу, садзімся збоку. «Нядобра, што я яго ад даклада адцягваў сваімі пытаннямі, — мільганула думка. — Тэма ж няпростая — «Універсалізм і правінцыялізм у СМІ». Былі б хаця б тэзісы, а то ўсяго некалькі слоў на адным боку аркуша».

— Наш вучоны сход, — чутны словы старшыні аргкамітэта прафесара Кучынскага, — ушанаваў сваёй прысутнасцю сусветна вядомы дзеяч кінамастацтва прафесар Кшыштаф Занусі. Паапладзіруем яму.

Воплескі гучалі таксама і пасля даклада К. Занусі, які абгрунтаваў тэзіс: універсалізм СМІ (перш за ўсё тэлебачання) вядзе да правінцыялізму нацыянальных тэлерадыёкампаній. Зроблена гэта было грунтоўна, змястоўна і, як адзначылі многія выступоўцы пасля, з вялікім артыстызмам.

Біяграфічная даведка. Крыштаф Занусі нарадзіўся ў Варшаве 57 гадоў назад. Вучыўся на фізічным факультэце Варшаўскага універсітэта, на філасофскім факультэце Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. Ужо тады стварыў некалькі аматарскіх фільмаў, якія вызначылі яго далейшы лёс. У 1996 г. ён скончыў рэжысёрскі факультэт Лодзьскай фільмавай школы і з таго часу стварае кіна- і тэлефільмы ў Польшчы і па-за яе межамі. Ставіў таксама оперныя і драматычныя спектаклі ў многіх краінах свету. З 1979 году, К. Занусі — нязменны дырэктар і мастацкі кіраўнік фільмавай студыі «ТОР» у Варшаве. У 1990 г. ён быў абраны прэзідэнтам Федэрацыі еўрапейскіх аўдыёвізуальных рэалізатараў (стваральнікаў і распаўсюджвальнікаў), а ў 1994 г. стаў таксама і прэзідэнтам Таварыства EVROVISIONI. Член Польскага таварыства пісьменнікаў і Польскага ПЕН-клуба.

**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**
**Фота аўтара.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

### ЦІ МЕЎ РАЦЫЮ ЛЕБЕДЗЬ, ВЫСВЕТЛІЦЬ ДЗЯРЖДУМА

Дзярждума Расіі даручыла сваім камітэтам высветліць абгрунтаванасць заявы генерала Лебедзя аб спробе путчу з боку акружэння экс-міністра абароны Грачова. Напярэдадні Аляксандр Лебедзь заявіў, што бліжэйшае акружэнне былога міністра абароны, у тым ліку і яго прэс-сакратар Алена Агапава, прапанавалі яму абвясціць у некаторых вайсковых часцях павышаную гатоўнасць у адказ на адстаўку кіраўніка ваеннага ведамства. Як лічыць ініцыятар даручэння, намеснік Старшыні Дзярждумы Сяргей Бабурын, неабходна таксама атрымаць тлумачэнні Агапавай, чым выклікана гэта спроба дзяржаўнага перавароту. Між тым, кіраўнік Камітэта па бяспецы Віктар Ільюхін заявіў, што ні ўрад, ні спецслужбы не атрымалі інфармацыі пра змову.

### РЭХА ПЕРАВАРОТУ, ЯКІ НЕ АДБЫЎСЯ, ДАКАЦІЛАСЯ ДА ГРУЗІІ

Міністр абароны Грузіі Надабаідзе ўчора раніцай быў выкліканы да прэзідэнта краіны Эдуарда Шэварднадзе. Як мяркуюць назіральнікі ў Тбілісі, гэта звязана з заявай сакратара Савета бяспекі Расіі, памочніка прэзідэнта па нацыянальнай бяспецы Аляксандра Лебедзя, які ў аўторак заявіў, што грузінскі міністр быў разам з расійскімі генераламі, якія планавалі путч у сувязі з адстаўкай міністра абароны Грачова. Сам Надабаідзе адхіліў абвінавачанні ў свой адрас.

### КАМУНІСТЫ ВЫБІРАЮЦЬ БУДУЧАГА ПРЭМ'ЕРА

На закрытым пасяджэнні савета блока народна-патрыятычных сіл, якое было праведзена ў аўторак пад старшынствам Генадзя Зюганава, у ліку магчымых кандыдатур на пасаду прэм'ера ўрада народнага даверу былі разгледжаны кандыдатуры мэра Масквы Юрыя Лужкова, старшыні Савета федэрацыі Ягора Строева і прэзідэнта Башкірыі Рахімава. Да гэтага пытання вырашана вярнуцца на наступным пасяджэнні, якое мае адбыцца заўтра. Плануецца давесці колькасць кандыдатаў на пасаду кіраўніка фарміруемага Кабінета Міністраў да 6-7 чалавек. Кансультацыі з імі пачнуцца з наступнага тыдня.

### ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА ПАРУШАЮЦЬ У 146 КРАІНАХ

У Лондане апублікаваны штогадовы даклад праваахоўнай арганізацыі «Міжнародная амністыя». Згодна са справаздачай, у мінулым годзе парушэнні правоў чалавека мелі месца ў 146 краінах. Аўтары дакумента адзначаюць асабліва грубыя масавыя парушэнні правоў чалавека ў такіх краінах, як Афганістан, Боснія, Чачня, а таксама паўднёвы ўсход Турцыі. Да краін, дзе маюцца «вязні сумлення», «Міжнародная амністыя» адносіць Албанію, Азербайджан, Беларусь, Румынію, Туркменістан і Узбекістан.

### ЯДЗЕРНЫЯ ВЫПРАБАВАННІ ХУТКА БУДУЦЬ ЗАБАРОНЕНЫ

Злучаныя Штаты маюць намер дамагацца, каб Ізраіль, Індыя і Пакістан падпісалі дагавор аб глабальнай забароне ядзерных выпрабаванняў яшчэ да таго, як ён уступіць у сілу. Для дасягнення гэтай мэты ЗША аб'ядноўваюць свае намаганні з чатырма іншымі ядзернымі дзяржавамі: Расіяй, Кітаем, Вялікабрытаніяй і Францыяй. Работа над дагаворам аб поўнай забароне ядзерных выпрабаванняў знаходзіцца ў стадыі завяршэння. Дакумент павінен быць падпісаны ў Жэневе 28 чэрвеня.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Два члены брытанскай палаты абшчын — Ліз Лін з партыі ліберальных дэмакратаў і лейбарыстка Лін Голдынг — залезлі ў кардонныя каробкі, каб правесці ў іх ноч. Гэтай акцыяй ля Вестмінстэрскага абацтва ў Лондане адкрыўся Нацыянальны тыдзень сну пад адкрытым небам, які праводзіцца з дабрачыннымі мэтамі. Арганізатары «тыдня» разлічваюць, што прыклад з парламентарыяў возьмуць іншыя англічане, якія правядуць ноч у такіх жа каробках, збіраючы адначасова грошы на дапамогу бяздомным, для якіх такі начлег — сумная неабходнасць. Толькі ў брытанскай сталіцы налічваецца ад 18 да 20 тысяч бяздомных.

**Асашыэйтэд Прэс**

Штогадовы з'езд свяшчэннаслужыцеляў баптысцкай царквы поўдня ЗША, які адбыўся ў Новым Арлеане, прыняў рэзалюцыю з заклікам зрабіць намаганні з мэтай схіліць да хрысціянства яўрэяў. Пастыры, якія прадстаўлялі 15,6 мільёна прыхаджан, выбралі і місіянераў, на долю якіх выпаў гэты абавязак. Улады не выключаюць, што такога роду рэзалюцыя можа выклікаць напружанасць у адносінах з мясцовымі яўрэйскімі суполкамі.

**«Інтэрнэшнл геральд трыбюн»**

Пабіць незвычайны сусветны рэкорд і адзначыць тым самым адкрыццё новай чыгуначнай веткі вырашыў жыхар Бельгіі Уолтэр Арфей. Сціснуўшы зубамі трохметровы канат, ён працягнуў па рэйках пяць вагонаў вагой 224,5 тоны. Папярэдняе дасягненне бельгійскага асілка раўнялася 184 тонам.

**Рэйтэр**

МАЛАДЗЕЧНА-96

# ФЕСТЫВАЛЬ ПЕСНІ ЯК ЛЮСТЭРКА СТАНУ КУЛЬТУРЫ НА БЕЛАРУСІ

**Раз у год, падчас фестывалю беларускай песні і паэзіі, мы ўспамінаем пра нацыянальнае мастацтва. Імкненне рабіць такі фестываль выспела тады, калі подых адраджэння беларускага мастацтва ўзрушыў свядомасць многіх дзеячаў культуры. І яшчэ раз прымусіў упэўніцца, дзеля чаго яны ствараюць на гэтай зямлі.**

Ідэя пайшла ў народ. Пасля чатырох фестываляў, што ўжо адбыліся, людзей не трэба зараз пераконваць, каб яны звярталі ўвагу на тое, што ёсць у нас сваё. У фестывалю ёсць шмат прыхільнікаў, яго пазнаюць, ведаюць, чакаюць.

У гэтым годзе яму прыйшлося трошкі цяжэй, чым у папярэднія разы. Усё, што было створана ў беларускай песні раней, ужо перабрана. А новых песень за год з'явілася мала. Магчыма, таму засталося ўражанне, што многія дзеячы культуры, якія павінны дарыць свята, ці тыя, ад каго залежыць яго правядзенне, адчуваюць нейкую разгубленасць. Быццам бы зноў час прымушае задумацца: «Дзеля чаго?»

Тым не менш, у Маладзечне адказ быў атрыманы. Праграма аўтарскіх ды сольных канцэртаў узрушыла публіку. І выратавала фестываль у гэтым годзе.

**Кампазітар Эдуард ЗАРЫЦКІ:**

*— Аўтарскі вечар на фестывалі — вялікая падзея для мяне. Мы з пачатку года рыхтавалі гэты канцэрт з аркестрам Фінберга. Самым каштоўным для мяне было тое, што маладыя спевакі аркестра з задавальненнем бралі старыя, некалі папулярныя песні, адкрывалі ў іх нешта новае. Працавалі вельмі зацікаўлена. У маім творчым жыцці было некалькі перыядаў супрацоўніцтва з артыстамі. Спачатку мае песні сталі вядомымі дзякуючы Яраславу Еўдакімаву, потым яны перайшлі да Мікалая Скорыкава, а зараз гучаць у выкананні Якава Навуменкі. Мне прыемна працаваць са спевакамі, якія робяць сваю справу добра. Таму я вельмі ўдзячны салістам Дзяржаўнага канцэртнага аркестра — яны зрабілі вялікую працу. Была рызыка, што на фестывалі такі канцэрт могуць не ўспрыняць як належыць. Таму што аўтарскія вечары, зразумела, лепш праводзіць у філарманічнай зале. А тут — адкрытае паветра, жывы гук, прамы эфір — вялікая адказнасць, невядома якія накладкі могуць атрымацца. А калі ўбачыў, як «бярэцца» зала, то адчуў палёгку. Я свядома пайшоў на тое, каб перакласці некаторыя вядомыя песні з рускай мовы на беларускую, бо фестываль нацыянальны і не трэба парушаць гэтай традыцыі. Але публіка добра ўспрыняла тую ж «Развітальную гастроль» у новым варыянце.*

Тым не менш, песні на рускай мове ўсё ж такі прагучалі на маладзечанскім фестывалі ў аўтарскім канцэрце Уладзіміра Някляева. Паэт палічыў, што нельга адмаўляцца ад цэлага этапа ў сваёй творчасці. У жыцці нашай краіны былі розныя перыяды, гэтак жа, як і ў жыцці яе жыхароў. Гісторыя ёсць гісторыя, яе не перапішаш. Але менавіта гісторыя час ад часу дае штуршок да новай творчасці, да новых вершаў і песень.

Гісторыя фестывалю беларускай песні і паэзіі, напрыклад, папоўнілася «паэтычнымі чытаннямі», якія збіралі людзей у парку. Гэты сапраўды ўдалы набытак паяднаў свята музыкі са святам слова. Дарэчы, менавіта тут больш за ўсё адчувалася жаданне людзей пачуць роднае слова.

**Васіль ЗУЁНАК, Старшыня саюза пісьменнікаў Беларусі:**

*— З першых сустрэч у Маладзечне, я адчуў, што зямля гэта паэтычная, песенная, людзі настроены на ўспрыманне мастацтва. Нездарма яна звязана з імёнамі волатаў нашай паэзіі — Багдановіча, Купалы. Тут яны чэрпалі натхненне, тут пісалі цудоўныя вершы.*

*Сёння, на жаль, такі час, што не заўсёды паэтычнае слова даходзіць да людзей. Асабліва бедаваць з гэтай прычыны не варта, таму што грамадства апынулася ў стане не надта паэтычным. Ды і не ўсе людзі, у рэшце рэшт, захапляюцца паэзіяй.*

*— Ці не адчувае паэзія сябе ў пэўнай ступені пакрыўджанай на тэлебачанні, што ўся яго ўвага прыкавана да эстрады? Не толькі на фестывалі...*

*— Мы нядаўна гаварылі ў Саюзе пісьменнікаў аб стане выдання нашай беларускай мастацкай літаратуры і выказвалі шкадаванне, што тэлебачанне вельмі рэдка звяртае сваю ўвагу ў бок паэзіі. Не абавязкова рабіць нейкія доўгія інтэрв'ю, вялікія перадачы, магчыма, хапіла б «хвілінкі «паэзіі. Хтосьці выпадкова пачуў слова, а яно запала і засталося. А я бачу, калі езджу па краіне, што на Беларусі паэтычнае слова вельмі паважаюць. І тут вы гэта бачыце.*

На Беларусі, здаецца, зараз існуе вялікая патрэба менавіта ў сустрэчах з дзеячамі культуры. Многія гарады лічаць за гонар мець свой фестываль. У кожнага — свая адметная ідэя. Цудоўна, калі матэрыяльныя нястачы людзі могуць замяніць духоўным пажыткам. Толькі ўжо надта многа фестываляў, якія губляюцца адзін сярод аднаго, ды і на пад'ём культуры, падобна, не ўплываюць. Якая будучыня сярод іншых маладзечанскага?



**Уладзімір РЫЛАТКА, намеснік міністра культуры:**

*— Мне здаецца, вельмі карысна, што на Беларусі падтрымліваецца духоўны мікраклімат менавіта дзякуючы фестывальнаму жыццю. Многія гарады ўжо вызначыліся, знайшлі добрае выражэнне ідэі сваіх фестываляў. Галоўны вынік, што ў такі складаны час захоўваецца культурная аура не толькі ў сталіцы і вялікіх гарадах. Хоць, вядома, структура фестываляў, асабліва конкурсная, на Беларусі павінна змяніцца.*

Фестываль беларускай песні і паэзіі быў багаты на сустрэчы. І добра, што эстрада ўдала дапаўнялася народнай песняй і паэзіяй. Толькі шкада, што сустрэчы такія не маюць працягу далей — на тэлебачанні і іншых канцэртах. Нацыянальны фестываль павінен рыхтавацца ўвесь год, каб усе, хто мае дачыненне да беларускай песні, паказалі, што не стаяць на месцы, што ствараюць.

Такім чынам, музыкі падводзяць свае вынікі, паэты — свае. Гарадскія ўлады горада Маладзечна таксама думаюць пра вынікі сёлетняга фестывалю, каб вырашыць, ці адбудзецца ён на наступны год. Вядома, клапатлівая гэта справа — прымаць фестываль. Тым больш зараз, калі людзі перш за ўсё думаюць пра хлеб надзённы. Станіслаў Татарыновіч, старшыня Маладзечанскага гарвыканкома, сказаў, што горад будзе думаць пра будучыню фестывалю, а на наступны год ці праз год — пакажа жыццё. Не праводзіць фестываль так часта — прапанова не толькі маладзечанскіх уладаў. Кажуць, што трэба год пачакаць, накапіць творчы матэрыял, каб было што новае паказаць людзям. Магчыма. Толькі творчы застой можа цягнуцца гадамі. І залежыць ён усё ж больш ад агульнага стану беларускай культуры, які, хутчэй за ўсё, зменіцца не так хутка. Дык колькі прыйдзецца чакаць?

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

ПАЛЕМІКА

# УСЁ МАЕ ПАЧАТАК ЦІ РЭЦЫДЫЎ ТАТАЛІТАРЫЗМУ Ў ПЕДАГОГІЦЫ

*«Звязда» ў нумары ад 28 мая 1996 г. змясціла артыкул «Пасляслоўе да доктарскай дысертацыі». Сёння мы друкуем ліст у «Звязду» з іншым поглядам.*

ПУБЛІКАЦЫЯ «Пасляслоўе да доктарскай дысертацыі», нядаўна змешчаная ў газеце «Звязда», наўрад ці ўяўляе сабой сенсацыю. Прынамсі, для беларускіх вучоных, якія працуюць у галіне педагогікі. Не так шмат у Беларусі дактароў педагагічных навук, каб канфліктная сітуацыя вакол адной з доктарскіх дысертацый магла застацца незаўважанай. Тым больш, што публікацыя, якая з'явілася ў газеце, не адкрывае для нас нешта новае. Нам цяжка пераконваць чытача і газету ў тым, што ўся сітуацыя, што склалася вакол А.У. Казуліна і яго дысертацыі, ёсць адлюстраванне калянавуковай і чыноўніцкай інтрыгі. І зусім не таму, што цяжка знайсці гэтаму пацвярджэнні. Хутчэй прычына ў іншым: нам не хацелася б станавіцца суддзямі таго ці іншага боку. Але прамаўчаць з нагоды «праведнага гневу» прафесара В.М. Навумчыка, а ўслед за ім — і калегіі Міністэрства адукацыі і навукі ў дачыненні да дысертацыі А.У. Казуліна немагчыма хоць бы па той прычыне, што ўсё «злачынства» ўчынялася на нашых вачах, з нашым непасрэдным удзелам. Таму, ніколькі не баючыся абвінавачанняў і ў свой уласны адрас, мы хацелі б звярнуць увагу чытачоў на наступныя моманты. Думаем, што маем на гэта права.

Ледзь не самае страшнае, што інкрымінуецца Аляксандру Уладзіслававічу Казуліну, — выкарыстанне ім службовага становішча ў працэсе падрыхтоўкі дысертацыі. А ці вядома тым, хто арганізаваў «справу» вакол доктарскай дысертацыі, як, з якімі цяжкасцямі нараджалася ўсё новае, што сёння называецца ліцэямі, гімназіямі і г.д. і да т.п.? Вы думаеце, што Казулін, праявіўшы мудрасць, кемлівасць, злавіў, што называецца, момант, выбраўшы тэмай дысертацыйнага даследавання навучальныя ўстановы новага тыпу? Калі вашы перакананні базіруюцца на пустых выдумках чыноўнікаў ад адукацыі, дык не лішне было б звярнуцца да фактаў.

Дзякуючы службоваму становішчу Аляксандра Уладзіслававіча, яго наватарству, беларуская школа здолела ў 90-я гады зрабіць значны рывок у развіцці сістэмы альтэрнатыўнай адукацыі шляхам стварэння сеткі навучальных устаноў новага тыпу — ліцэяў, гімназій, каледжаў, ВПВ. Не ўсе, на жаль, работнікі міністэрства выкарыстоўваюць сваё службовае становішча падобным чынам. А калі гаварыць больш дакладна — ставяцца да новых ідэй і праектаў настолькі асцярожна, што гатовы нічога не рабіць, толькі б не парушыць уласны спакой і дабрабыт. Таму, відаць, і камісія на чале са Стаўровым, і калегія не заўважылі, што Казулін бясплатна, на грамадскіх пачатках кіраваў работай чатырох часовых творчых калектываў, якія займаліся распрацоўкай нарматыўна-прававой базы для навучальных устаноў новага тыпу — палажэнняў аб гімназіі, ліцэі, каледжы, вышэйшым прафесіянальным вучылішчы. Тым самым пад кіраўніцтвам Аляксандра Уладзіслававіча была створана юрыдычная аснова для дзейнасці больш як ста навучальных устаноў новага тыпу, у якіх вучацца каля 70 тысяч навучэнцаў. Вам дастаткова пабываць у ліцэі пры БДУ, у мінскай педагагічнай гімназіі, у гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны, у лінгва-гуманітарным каледжы, — і вы зразумееце, што станаўленне гэтых, на сённяшні дзень самых аўтарытэтных устаноў перадвузаўскай падрыхтоўкі, праходзіла з актыўным удзелам А.У. Казуліна. Пра гэта, выступаючы на міжнародных і рэспубліканскіх канферэнцыях і семінарах па праблемах дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу, публічна гаварылі кіраўнікі згаданых гімназій, каледжа і ліцэя. Дарэчы, яны сёння і сярод аўтараў гэтага пісьма ў рэдакцыю. І яшчэ адна важная асаблівасць: з асноўнымі дакладамі на гэтых канферэнцыях, семінарах выступаў менавіта Аляксандр Уладзіслававіч. Падтрымаўшы (па пасадзе, па службоваму становішчу і па грамадзянскай пазіцыі) новы напрамак у адукацыі, А.У. Казулін не абмежаваўся толькі гэтым. Ён стварае навуковую лабараторыю па аператыўнаму вывучэнню інавацыйнай дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу. Аб'ядноўваюцца захопленыя, мэтанакіраваныя людзі, якія і раней працавалі над даследаваннямі ў гэтай галіне. Доктарскае ж даследаванне А.У. Казуліна, прысвечанае педагагічнаму кіраванню развіццём навучальных устаноў новага тыпу, — гэта іншы, больш высокі ўзровень абагульнення, што нясе ў сабе навукова абгрунтаваную характарыстыку новых механізмаў, якія робяць школу месцам самарэалізацыі асобы вучня. Нельга, бадай, не ўстрымацца ад адной цытаты: «Будучы арганізатарам новага педагагічнага вопыту, навуковай лабараторыі, якая збірала матэрыял аб розных аспектах дзейнасці навучальных устаноў новага тыпу, А.У. Казулін змог аператыўна ажыццявіць распрацоўку буйной навуковай праблемы, якая дапамагае кіраўнікам школ рэспублікі выпрацаваць новую стратэгію развіцця. Гэта дае падставу для прызнання важкасці яго асабістага ўкладу ў тэорыю і практыку адукацыі». Гэтае сцвярджэнне ўзята з пратакола пашыранага пасяджэння лабараторыі педагагічнай творчасці інстытута павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых работнікаў і спецыялістаў адукацыі Рэспублікі Беларусь ад 21 мая 1996 года, на якім абмяркоўвалася пытанне «Аб выніках праверкі камісіяй Міністэрства адукацыі і навукі заяў В.М. Навумчыка». На пасяджэнні прысутнічалі 18 чалавек. З іх 6 дактароў навук. Здзіўляе факт выкарыстання ў артыкуле толькі тых дакументаў, якія звязаны з абвінавачаннем дысертанта. Безумоўна, журналіст мог і не ведаць, хто такі прафесар В.М. Навумчык, які яго аўтарытэт у навуковым педагагічным савеце. Яго ўласная дысертацыя двойчы абмяркоўвалася ў Маскве і была адхілена як праца па педагогіцы. Праз год яна была абаронена ў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэце па іншай спецыяльнасці. Першым апанентам выступіў цяперашні міністр адукацыі і навукі В.І. Стражаў, які не з'яўляецца спецыялістам у гэтай галіне. Нягледзячы на адмоўныя водгукі з Масквы і адмоўныя выступленні некаторых вучоных, абарона ўсё ж адбылася. І раптам В.М. Навумчык выступіў у ролі суддзі іншага дысертанта. Дзіўнае аднабаковае праўдалюбства.

На першы погляд, сур'ёзна кампраметуючым А.У. Казуліна выглядае факт «супадзення па зместу» 1-га раздзела яго дысертацыі і даследавання іншага аўтара, а таксама «частковыя тэкставыя супадзенні» (цытата з артыкула) з працамі «аўтара-папярэдніка». Абурае псеўдаманагазначнасць такіх невыразных фармулёвак, але яшчэ больш — абсалютная іх неадпаведнасць сапраўднасці. І тут дарэчы было б звярнуцца да «аўтара-папярэдніка» В.А. Капранавай. Яна — сярод аўтараў гэтага пісьма. Але, думаецца, намнога важней працытаваць выключна яе асабісты, індывідуальны пункт погляду (хоць бы з прычыны боязі атрымаць абвінавачанне ў калегіяльнай выпрацоўцы праўдзівых дакументаў). Кандыдат педагагічных навук В.А. Капранава (з выступлення на пашыраным пасяджэнні лабараторыі педагагічнай творчасці): «У заключэнні ўказваецца, што першы раздзел дысертацыі А.У. Казуліна па свайму зместу адпавядае даследаванню «Логіка-гістарычны аналіз айчыннага і замежнага вопыту арганізацыі і функцыянавання навучальных устаноў новага тыпу». Гэта не адпавядае сапраўднасці. Першы раздзел не ідэнтычны ні названай тэме, ні маім навукова-папулярным працам. Супадзенні, якія ёсць (два-тры блізкія па сэнсу сказы), пра якія гаворыцца ў заключэнні, непазбежныя, таму што мы карысталіся аднымі і тымі ж крыніцамі. Больш таго, асноўную нагрузку ў першым раздзеле дысертацыі А.У. Казуліна нясе тэарэтычны аналіз сацыяльна-эканамічнай сітуацыі, што абумовіла неабходнасць змены парадыгмы адукацыі. Гэтага камісія чамусьці не заўважыла. У гэтым жа заключэнні ўказваецца, што няма сумесных публікацый з А.У. Казуліным. Гэта няправільна, наша сумесная праца называецца «Прыватная школа». Яна выйшла пад навуковай рэдакцыяй А.У. Казуліна. Я ўдзячная Аляксандру Уладзіслававічу за тое, што ён у сваёй працы спасылаўся на мае публікацыі. Лічу, што ўсе абвінавачанні ў адрас А.У. Казуліна з'яўляюцца надуманымі і носяць калянавуковы характар».

Мы перакананыя ў тым, што абвінавачанні, выстаўленыя супраць А.У. Казуліна, — самая тыповая непрыгожая валтузня вакол навукі, якая ніколі не прымалася ў разлік ВАКам. Кампетэнтнасць жа аўтара праверана спецыялізаваным саветам па прысуджэнню вучонай ступені доктара педагагічных навук у Маскоўскім педагагічным дзяржаўным універсітэце імя У.І. Леніна і на трох пасяджэннях экспертнага савета ВАК Расійскай Федэрацыі. Дык ці мае права калегія Міністэрства адукацыі і навукі ставіць пад сумненне рашэнне такіх кампетэнтных органаў, якія асабіста ніяк не могуць быць зацікаўлены ў «праштурхоўванні» дысертацыі беларускага вучонага? Узнікшая сітуацыя ганебная, таму што кампраметуе і педагагічную навуку, і Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь.

Цяжка зразумець дзеянні калегіі Міністэрства адукацыі і навукі, што скааперавалася з В.М. Навумчыкам у барацьбе супраць А.У. Казуліна. Увага праверак з самага пачатку канцэнтравалася толькі на негатыўных момантах у дзейнасці апошняга. Прычым дробныя недапрацоўкі тут жа раздуваліся да гіганцкіх памераў, ператвараючыся з радавой памылкі ў злачынства веку. Станоўчыя бакі даследчай і практычнай дзейнасці А.У. Казуліна зусім не адлюстраваны ў матэрыялах праверак.

Абмеркаванне працы А.У. Казуліна на калегіі міністэрства на прадмет адпаведнасці патрабаванням, што прад'яўляюцца да доктарскіх дысертацый, — гэта, акрамя усяго іншага, перавышэнне функцыянальных абавязкаў, больш таго — сапраўдны рэцыдыў таталітарызму. Як інакш можна вызначыць рашучую чыноўніцкую спробу ўстанаўлення дзяржаўнага нагляду над дзейнасцю вучоных? Ці ж гэта не падобна на вокрык: «Не смець сваё меркаванне мець!»? І справа ўжо, на наш погляд, не ў Казуліне і яго дысертацыі, прынамсі, не толькі ў ім. Справа датычыцца ўсіх. Так, «справа Казуліна» — празрысты намёк для дзесяткаў іншых, хто душу, сэрца, усяго сябе аддае сістэме адукацыі.

Больш як 30 дактароў педагагічных навук, прафесараў Рэспублікі Беларусь і Расіі, якія прымалі ўдзел у абмеркаванні доктарскай дысертацыі А.У. Казуліна, далі сваё заключэнне: праца ўяўляе сабой самастойнае тэарэтыка-практычнае даследаванне бясспрэчнай значнасці. А доктар педагагічных навук па методыцы выкладання фізікі В.М. Навумчык, які нядаўна абараніўся, прэтэндуе на ісціну ў апошняй інстанцыі, ігнаруючы меркаванне такога аўтарытэтнага супольніцтва, сярод якога — класікі сучаснай педагогікі.

Калегія Міністэрства адукацыі і навукі вынесла, аднак, свой прыгавор: доктарская дысертацыя А.У. Казуліна не адпавядае патрабаванням Палажэнняў аб прысуджэнні вучоных ступеняў, дзеючых у Рэспубліцы Беларусь і Расіі, у часткі асабістага ўкладу аўтара. (Заўважым, дарэчы, што далёка не ўсе супрацоўнікі міністэрства згодныя з гэтай ацэнкай.)

Не верыцца, што міністр адукацыі і навукі В.І. Стражаў і арганізаваная ім камісія (варта дадаць: ужо другая па адным і тым жа пытанні) пад кіраўніцтвам В.П. Стаўрова не ведаюць, што яны і падстаў юрыдычных не маюць даваць ацэнку дысертацыям наогул і ацэнку доктарскай дысертацыі А.У. Казуліна — у прыватнасці. Гэтае права прадастаўлена толькі спецыялізаваным саветам і ВАК. Міністэрская ацэнка дысертацыі А.У. Казуліна носіць прадузяты, суб'ектыўны, ненавуковы характар.

І апошняе, што хацелася б падкрэсліць. Калі б Міністэрства адукацыі і навукі займалася сваімі непасрэднымі праблемамі развіцця сістэмы адукацыі, а не разборкай тэндэнцыйных пісьмаў, дык яно даўно б пераарыентавала сваю дзейнасць на падтрымку новага напрамку ў арганізацыі адукацыі ў рэспубліцы, <u>даследаванага і курыруемага А.У. Казуліным</u> (падкр. у арыгінале.—**Рэд**.). Дарэчы, Міністэрства адукацыі і навукі фактычна спыніла фінансаванне дзейнасці лабараторыі педагагічнай творчасці, у якой даследаваліся інавацыйныя працэсы ў адукацыі. Грошы выдзелены толькі ў сярэдзіне мая і ў такім аб'ёме, які не дазваляе лабараторыі нармальна функцыянаваць. У выніку некалькі супрацоўнікаў былі звольнены.

**Правадзейны член БелАА, доктар педагагічных навук, прафесар А.І. КОЧАТАЎ; правадзейны член БелАА, доктар педагагічных навук, прафесар Б.В. ПАЛЬЧЭЎСКІ; правадзейны член БелАА, доктар педагагічных навук, прафесар А.П. СМАНЦЭР; член-карэспандэнт БелАА, доктар педагагічных навук, прафесар Л.А. МУРЫНА; член-карэспандэнт БелАА, доктар педагагічных навук, прафесар І.І. КАЗІМІРСКАЯ; член-карэспандэнт БелАА, доктар педагагічных навук К.У. ГАЎРЫЛАВЕЦ; член-карэспандэнт БелАА, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар А.І. ТАЎГЕНЬ; доктар філасофскіх навук, прафесар Я.В. ПЕТУШКОВА; кандыдат педагагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік В.А. КАПРАНАВА; дырэктар лінгва-гуманітарнага каледжа г. Мінска Т.М. БАБІЧ; дырэктар Мінскай педагагічнай гімназіі Г.І. ДАБРЫНЕЎСКАЯ; дырэктар гімназіі № 1 імя Ф. Скарыны г. Мінска Л.М. ЛАБАДАЕВА; дырэктар ліцэя пры БДУ, кандыдат фізіка-матэматычных навук Г.У. ПАЛЬЧЫК; дырэктар эксперыментальнага ліцэя № 1 г. Брэста С.М. СЯМЁНАВА; дырэктар ліцэя пры БГТУ, кандыдат педагагічных навук В.Р. ЧАРНАВУСАВА.**




## Замест малатка

На легкавых аўтамабілях бывае вельмі цяжка разлучыць трубы выпускной сістэмы, пакольki з часам яны моцна прыгараюць адна да адной. Карыстанне ў такіх выпадках цяжкім малатком прыводзіць звычайна да пашкоджання труб глушыцеляў, а то і днішча аўтамабіля.

Гэта работа значна аблегчыцца, калі прымяніць прыстасаванне, якое паказана на малюнку. Хамут 2, свабодна трымаючыся на трубе 5, упіраецца ў тарэц трубы 1, а хамут 3 замацаваны на трубе 5 нерухома. Круцячы балты 4, ссоўваем трубу 1 з унутранай трубы 5.

Гэта ж прыстасаванне можна выкарыстоўваць для злучэння труб, калі ў хамуце 2 прасвідраваць дзіркі дыяметрам 10,5 мм.

Яго замацоўваюць нерухома на знадворнай трубе і, прапусціўшы балты праз наяўныя ў ім дзіркі, укручваюць іх у хамут 3.

Памеры прыведзены для «Жыгулёў».



*1 — знадворная труба; 2 — рухомы хамут; 3 — нерухомы хамут; 4 — болт М10-80; 5 — унутраная труба; 6 — вінт М8-16.*

## Як аднавіць пракладку

Пры кожным тэхнічным абслугоўванні аўтамабіля трэба здымаць накрыўку газаразмеркавальнага механізма для рэгулявання клапанаў.

З цягам часу пракладка накрыўкі цвярдзее, дэфармуецца і не забяспечвае герметычнага злучэння. Калі масла пачынае працякаць па дзірках для шпілек, ушчыльніць гэтыя месцы можна гумавымі кольцамі вышынёй каля 5 мм, нарэзанымі са шланга падыходзячага дыяметра, якія надзяваюцца на шпількі пад накрыўку. Калі гэта не дапамагае, пракладку трэба мяняць. Але можна аднавіць працаздольнасць старых пракладак гатаваннем іх у вадзе хвілін 45—50. Для гэтага патрэбна пасудзіна, дзе пракладкі будуць ляжаць без згібаў. Каб яны не ўсплывалі, на іх трэба пакласці цяжар. Пасля высыхання пракладкі набываюць амаль што першапачатковую форму і таўшчыню.

**Паспрабуйце так**

Пасля доўгай стаянкі дыск счаплення часам так моцна прыліпае да махавіка каленчатага вала, што разлучыць іх, націскаючы на педаль выключэння счаплення, не ўдаецца. Ёсць розныя спосабы. Вось адзін з іх.

Трэба выкаціць машыну з гаража, прагрэць рухавік. Затым два-тры чалавекі штурхаюць яе, каб было лягчэй уключыць першую перадачу, а вы, седзячы за рулём, выціскаеце да канца педаль счаплення. Плаўна павялічваеце абароты рухавіка і, не адпускаючы педаль счаплення, едзеце 300—400 метраў. У гэты час дыск заўсёды аддзяляецца ад махавіка.

## І Ў БЕЛАРУСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ — УЛАСНЫ СЛОЎНІК. РУСКА-БЕЛАРУСКІ

Апошнім часам паменела размоў пра выкарыстанне беларускай мовы, беларускай тэрміналогіі ў войску, у міліцыі, у іншых дзяржаўных інстытутах. Яно і зразумела: шматразова знізіўся, скажам так, попыт на беларускую мову.

І ўсё ж у мінскім выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» пабачыў свет «Руска-беларускі слоўнік для вайскоўцаў» (пад рэдакцыяй кандыдата ваенных навук У. Язэпчыка і кандыдата філалагічных навук М. Крыўко).

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

*Віншуем любімага і паважанага нашага доктара БРУЙ Людмілу Аляксандраўну з Днём медыцынскага работніка. Жадаем Вам здароўя і дабрабыту. Быць такой жа добрай і ўважлівай да нас заўсёды. Дзякуй, што вы ў нас ёсць.*

Жыхары вёскі Засулле Стаўбцоўскага раёна.

*Віншуем дарагога сына ПІВАВАРЧЫКА Мішу з днём нараджэння. Моцнага здароўя, усяго найлепшага.*

Мама, тата, брат.

*Віншуем НАВУМАВУ Валянціну Іванаўну з днём нараджэння.*

*Жадаем шчасця, здароўя, любові.*

Дачка Іра, зяць Дзіма.

*Віншуем дарагую і любімую жонку і мамачку СКРУНДЗЬ Ганну з саракагоддзем. Шчасця табе, здароўя.*

Муж, дзеці.

# Post Factum

## Гэты дзень у гісторыі

**20 чэрвеня 1531 года** горад Слонім атрымаў магдэбургскае права.

**20 чэрвеня 1566 года** нарадзіўся вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, кароль Польшчы, кароль Швецыі Зыгмунд III Ваза. Выхаванец езуітаў. Садзейнічаў заключэнню Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. і ўстанаўленню ў Рэчы Паспалітай каталіцкай рэакцыі. У 1609 годзе пачаў адкрытую інтэрвенцыю ў Расію, але пацярпеў паражэнне.

У гэтыя дні **ў 1793 годзе** пачаўся Гродзенскі сейм, надзвычайны і апошні ў Рэчы Паспалітай. Быў скліканы для зацвярджэння руска-прускай канвенцыі аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. Сейм вынес рашэнне заключыць трактат толькі з Расіяй, паводле якога да яе адыходзілі землі Цэнтральнай Беларусі і Правабярэжная Украіна. Пасля пагрозы Прусіі пачаць ваенныя дзеянні, 23 верасня пры ўсеагульным маўчанні (знаку згоды), маршалак сейма заявіў аб ратыфікацыі дагавора, паводле якога да Прусіі адышла амаль уся Вялікая Польшча, частка Мазовіі і Кракаўскага ваяводства.

У гэты дзень **у 1819 годзе** нарадзіўся славуты французскі кампазітар Жак (Якаб) Офенбах, адзін з заснавальнікаў класічнай аперэты («Арфей у пекле», «Парыжскае жыццё», «Перыкола»), аўтар оперы «Казкі Гофмана».

**20 чэрвеня 1843 года** ў маёнтку Новы Двор Рэчыцкага павета нарадзіўся вядомы оперны спявак Фёдар Стравінскі. Закончыўшы Пецярбургскую кансерваторыю, з'яўляўся салістам Кіеўскага, а затым Марыінскага оперных тэатраў. Ф. Стравінскі валодаў моцным голасам (бас), яркім сцэнічным талентам. Яго выканальніцкая дзейнасць стала значным этапам у гісторыі рускага рэалістычнага опернага мастацтва.

**20 чэрвеня 1932 года** нарадзіўся вядомы расійскі паэт Роберт Раждзественскі, аўтар вострапубліцыстычных твораў.

## Цікава

***Італьянскі геолаг Чэзарэ Эміліяні ўжо некалькі гадоў выступае за змяненне кропкі адліку ў летазлічэнні.***

Ён лічыць, што цяперашняя кропка адліку — нараджэнне Хрыстова —стварае нязручнасці пры ўказанні дат старажытнай гісторыі, бо прыходзіцца адзначаць, да ці пасля нараджэння Хрыста адбылася нейкая падзея. Акрамя таго, пры падліку колькасці гадоў, прайшоўшых з часу нейкай старажытнай падзеі, прыходзіцца ўлічваць, што не было нулявога года, а гэта часам прыводзіць да памылак. Немалаважна і тое, што больш за палову насельніцтва свету — не хрысціяне, і такі адлік часу можа зневажаць іх рэлігійныя пачуцці. Па гэтаму Эміліяні прапаноўвае аднесці зыходную дату нашага календара на 10 тысяч гадоў назад, да пачатку галацэна — геалагічнага перыяду, у якім мы жывем і ў якім адбылася большасць вядомых падзей чалавечай гісторыі. У такім разе, напрыклад, год заснавання Рыма будзе не 753-ці да нараджэння Хрыста, а 9248-ы. На пярэчанне, што пачатак геалагічнага перыяду немагчыма дакладна датаваць нейкім годам, геолаг указвае, што і год нараджэння Хрыста таксама дакладна невядомы. Ён мог нарадзіцца ў дыяпазоне ад 5-га года да Н.Х. да 7-га года пасля Н.Х.

## Дзесьці, на белым свеце

***Для ласуноў, якія самі не ў стане пераадолець цягу да шакаладу, вучоныя прыдумалі таблетку пад назвай «горкая слодыч».***

У наступныя дзве гадзіны пасля прыёму смак любой цукеркі здаецца агідным, бо састаў таблеткі нейтралізуе рэцэптары салодкага смаку, якія размешчаны на языку. Аднак сапраўдных ласуноў суцяшае тое, што ў дзень можна прымаць толькі дзве таблеткі, а за астатнія 20 гадзін салодкага можна наесціся ўдосталь!

## Што ў імені маім

***АЛЯКСАНДР — ад старажытнагрэчаскіх слоў «алекс» — абараняць і «андрас» — мужчына, г. зн. «абаронца людзей».***

У дзяцінстве Аляксандры часта хварэюць, але падлеткамі ўзмоцнена займаюцца спортам і вырастаюць даволі дужымі і мэтанакіраванымі мужчынамі. Аляксандры здольны дабівацца свайго, з іх атрымліваюцца нядрэнныя кіраўнікі, якія карыстаюцца рэпутацыяй справядлівых. Любяць выпіць, і ў стане ап'янення становяцца сапраўднымі хвалькамі, губляюць кантроль над сабой. У адносінах з жанчынамі Аляксандр перш за ўсё імкнецца быць чароўным. Рэдка сустрэнеш такога прыветлівага мужчыну: падаць руку, дапамагчы апрануць паліто, купіць букет кветак — гэта ў яго ўвайшло ў звычку. Галоўная ж зброя Аляксандра — камплімент, але Аляксандр пры гэтым не іграе, ён на самай справе верыць у шчырасць сваіх кампліментаў, а таксама сваіх прызнанняў у каханні. Бяда ў тым, што, пакляўшыся кахаць вечна, Аляксандр праз нейкі час з такім жа запалам і верай у захапіўшае яго пачуццё будзе клясціся другой жанчыне.

Аляксандры, якія маюць імёны па бацьку Мікалаевіч, Дзмітрыевіч, Алегавіч, Барысавіч, Сямёнавіч, адносяцца да складаных натур.

Найбольш удалыя шлюбы з Алінай, Ганнай, Багданай, Валянцінай, Веранікай, Ветай, Дар'яй, Лізаветай, Зояй, Інай, Ірынай, Людмілай, Наталляй, Аксанай, Любоўю. Верагоднасць няўдалага шлюбу высокая з Данутай, Кацярынай, Аленай, Лідзіяй, Святланай.

## Беларускі народны анекдот

*Прыйшоў адзін наймацца ў гарадавыя. А сам быў малы такі, куртаты. Дык яму і кажуць:*

*— Ну куды ж табе ў гарадавыя, такому малому?*

*А ён:*

*— Не глядзіце, што малы, але гадасць я магу зрабіць вялікую.*

## МІНЧАН ЧАКАЮЦЬ СЮРПРЫЗЫ

**Нягледзячы на мноства святочных дат у нашым календары, людзі развучыліся адпачываць. Зусім хутка — 6-7 — ліпеня ў мінчан будзе выдатная магчымасць адысці ад звыклага для ўсіх віду «адпачынку» — ускопвання градак на дачных участках — і цікава правесці вольны час. У гэтыя дні ў беларускай сталіцы ў 10-ы раз пройдзе свята горада.**

Як паведамілі арганізатары свята на прэс-канферэнцыі, што адбылася ў Мінгарвыканкоме, сёлета жыхароў г. Мінска і яго гасцей чакаюць некалькі прыемных сюрпрызаў. Так, у Траецкім прадмесці ўпершыню адбудзецца опера пад адкрытым небам, слухачом якой зможа стаць кожны. Аматарам піва прадаставіцца магчымасць адвесці сваю душу на свяце піва з умоўнай пакуль назвай «Смага-96», удзельнікамі якога павінны стаць не толькі айчынныя півавары. Яно пройдзе 6 чысла на галоўнай святочнай пляцоўцы каля Палаца спорту. Яшчэ адна сцэна будзе ўстаноўлена... прама на рацэ Свіслач насупраць старога тэлецэнтра (вул. Камуністычная), дзе мінчане будуць мець магчымасць назіраць за балетам на вадзе. Самыя цікавыя падзеі разгорнуцца тут з 22 да 24 гадзін. А завершыцца грандыёзнае відовішча феерверкам.

У праграму свята таксама ўвойдуць міжнародны марафон, дэманстрацыя мод каля кінатэатра «Масква», вальс прычосак, выстаўкі карцін беларускіх мастакоў, шматлікія канцэртныя праграмы.

Ноч з 6-га на 7-е ліпеня будзе не менш бурная і насычаная. Купалле будзе адзначацца ў многіх кропках сталіцы: на рацэ Свіслач, у Чыжоўцы, Серабранцы, у раёне Белай Дачы.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



*АБІТУРЫЕНТУ*

## СВЕЦЯЧЫ ІНШЫМ, ЗГАРАЮ САМ

Кожны год дзесьці з пачатку вясны ў рэдакцыю пачынаюць прыходзіць лісты ад моладзі з просьбамі падказаць, дзе можна атрымаць тую ці іншую прафесію, або расказаць пра некаторыя навучальныя ўстановы і правілы прыёму ў іх. Сёння «Звязда» расказвае пра адно з вучылішчаў, дзе рыхтуюць сярэдніх медыцынскіх работнікаў.

У Беларусі аднатыпных навучальных установ, якія рыхтуюць сярэдніх медыцынскіх работнікаў, семнаццаць. У горадзе Мінску — дзве, у вобласці — яшчэ тры: слуцкае, барысаўскае, маладзечанскае вучылішчы. Самая буйная ўстанова такога плану — Мінскае медыцынскае вучылішча № 2. Сёння тут атрымліваюць прафесію 1200 юнакоў і дзяўчат. Прыём у вучылішча ажыццяўляецца на базе 9 і 11 класаў. Абітурыенты здаюць два экзамены: дыктант па рускай ці беларускай мове (на выбар) і біялогію вусна.

Медалісты залічваюцца без экзаменаў, але праходзяць субяседванне. Для абітурыентаў, якія добра здалі экзамены, аднак не прайшлі па конкурсу, прадугледжана магчымасць платнага навучання. Тэрмін навучання па спецыяльнасці «медыцынская сястра» на базе 9 класаў — 3 гады, на базе 11 класаў — 2 гады. Частка навучэнцаў зможа працягнуць вучобу (дадаткова 1 год) і атрымаць прафесію фельдшара або акушэра. Прыём дакументаў заканчваецца 15 ліпеня, 16-га — першы ўступны экзамен.

Праблема беспрацоўя паўстала ў нашы дні надзвычай востра, датычыцца яна і медыкаў. Цяжка маладому спецыялісту знайсці работу па профілю. Як сведчыць статыстыка, Брэсцкая, Гродзенская і Віцебская вобласці поўнасцю забяспечаны сярэднімі медыцынскімі работнікамі. Пэўны дыфіцыт на людзей гэтай прафесіі адзначаецца ў горадзе Мінску, Гомельскай, Магілёўскай абласцях, часткова ў Мінскай вобласці. І ў гэтым плане alma mater паклапацілася пра далейшы лёс сваіх выпускнікоў — каля 90 працэнтаў студэнтаў вучылішча размяркоўвае на працу па клініках. Калі раптам каму прыйдзецца не даспадобы прапанаванае працоўнае месца, вучылішча пойдзе насустрач і выдасць «свабодны» дыплом. Ды і ўвогуле, выпускнікі Мінскага медыцынскага вучылішча № 2 заўсёды карысталіся попытам медыцынскіх установ рэспублікі. Тлумачыцца ўсё надзвычай проста — тут рыхтуюць сапраўдных прафесіяналаў сваёй справы. Яшчэ ў часы былога СССР Мінскае медвучылішча № 2 было прызнана лепшым на тэрыторыі Саюза. Вядома, шмат вады сплыло з таго часу, але ж і сёння дзякуючы намаганням выкладчыцкага калектыву і дырэктара вучылішча падрыхтоўка ў ім вядзецца на належным узроўні. Асабліва трэба адзначыць на больш чым дастатковую, не характэрную для нашых нялёгкіх дзён, забяспечанасць установы. Належнае месца ў навучальным працэсе займаюць практычныя заняткі, якія складаюць 70 працэнтаў ад агульных. Практыку студэнты праходзяць у вядучых клініках Мінска пад кіраўніцтвам прафесіяналаў.

Вось ужо 40 гадоў мінула з таго часу, як Мінскае медыцынскае вучылішча № 2 выправіла ў свет сваіх першых выпускнікоў. З таго часу гэтыя сцены пакінулі больш як 2000 добра падрыхтаваных медыкаў, якія сёння працуюць не толькі ў нашай рэспубліцы, але ў краінах блізкага і далёкага замежжа. Яшчэ не раз успомняць яны добрым словам сваё вучылішча, тых, каму многім абавязаны ў сваім жыцці, — выкладчыкаў. За доўгія гады ў вучылішчы склаўся адмысловы выкладчыцкі калектыў. Многія былыя выпускнікі не пажадалі назаўсёды пакідаць вучылішча і праз нейкі час вярнуліся сюды ўжо ў якасці настаўнікаў. Амаль паўтара дзесятка гадоў узначальвае гэтую ўстанову Аляксандр Груша. Нялёгка ў сённяшняй сітуацыі быць дырэктарам бюджэтнай навучальнай установы. Да звычайных клопатаў далучыліся яшчэ і матэрыяльныя. Як можна заставацца спакойным, калі з-за мільённай запазычанасці ў любы момант могуць адключыць ацяпленне або наогул забраць памяшканні за неаплату арэнды?

**Сяргей ПРОТАС.**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 3066.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.